E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 9 (38) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ВЕРАСЕНЬ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС* 63773 http://nchas.iatp.by

# Мінск. Сельгаспасёлак



# Быць ці не быць?

Стар. 2–4





# Знясуць? Не знясуць? А можа, перадумаюць?

У ліпені мінулага года мэр Мінска Міхаіл Паўлаў заявіў, што нельга расцягваць тэрміны рэканструкцыі прыватнага сектару сталіцы, акрэсленыя адпаведнай праграмай да 2015 года, і даручыў на працягу месяца падрыхтаваць дэталёвыя планы зносу і забудовы такіх кварталаў. Пасля конкурснага вызначэння забудоўшчыка па кожным з кварталаў будуць узгодненыя канкрэтныя тэрміны праграмы рэканструкцыі індывідуальнай забудовы горада. Аднак на працягу года пасля прыняцця гэтай праграмы гарадскія ўлады нічога не зрабілі, каб вырашыць мноства прававых пытанняў, злучаных з прадастаўленнем жылля на справядлівых пачатках жыхарам дамоў, якія ідуць пад знос.

На абвешчанае ўладамі паскарэнне працэсу частковай забудовы ў раёне вуліцы Багдановіча жыхары адказалі адчайным супрацівам. Стварающца арганізацыйныя структуры будучай грамадскай арганізацыі індывідуальных забудоўшчыкаў і землекарыстальнікаў «Радзіма», пішуць лісты ў Камітэт дзяржкантролю, парламент – дэпутатам Абрамавай, Круку (якія, відаць, падтрымліваюць запланаваны знос, бо не намагліся нават адказаць на калектыўныя лісты жыхароў раёна сядзібнай забудовы), у гарвыканкам, Пракуратуру, Адміністрацыю Прэзідэнта, Мінюст.

Прыватная ўласнасць у нашай краіне, здаецца, замацаваная Канстытуцыяй, і ўсё, што адымаецца ў чалавека з якойсьці грамадска важнай падставы, павінна быць цалкам кампенсавана. За знесены дом прадугледжана быццам бы «ўсё» і быццам «нічога» ў выглядзе «шпакоўняў», якія людзі маглі даўно атрымаць бясплатна, не будуючы свой дом. Чытаем у Жыллёвым кодэксе: «за дом, які падлягае зносу, прадугледжана: атрыманне ва ўласнасць кватэры (дзе? у якім раёне?), роўнага па кошту дома з усімі гаспадарчымі пабудовамі, участка зямлі з пераносам туды пабудоваў ці грашовая кампенсацыя». На справе ў домаўладальнікаў выбару няма. Ім прапануюць толькі кватэры. Чаму? Чаму не ў раёне іх пражывання? Чаму там, дзе танней і што танней. А таму, што так выгадна «інвестарам» і гораду – узяць паболей, а даць паменей. Дзе-небудзь у Шабанах, Сеніцы, ды яшчэ ў панельным доме, ды яшчэ ў «падменцы» нібыта часовай, але якая пагражае стаць пастаяннай.

Падрыхтавана пастанова, у якой агаворваецца, што прадастаўляцца будзе плошча метражом не болей за тую, што маюць домаўладальнікі.

Намеснік старшыні Мінгарвыканкама Вячаслаў Кушнер у інтэрв'ю «Советской Белоруссии» 31 ліпеня гэтага года адкрытым тэкстам заявіў: *«Мы не можем предложить этим людям ни земельные участки под застройку, ни дома усадебного типа. Но только потому, что их нет... нам удалось освободить несколько десятков городских земельных участков. Они были выставлены на аукцион и «ушли с молотка» по 150 – 200 долларов за кв. метр. Для казны это большое подспорье...»*. Цяжка ўбачыць у такой аперацыі «большое подспорье», а галоўнае, за чый яно кошт. Узяць у адных і прадаць даражэй – гэта як называецца?

Не паведаміў нічога новага ў інтэрв'ю «СБ» і начальнік упраўлення рэгулівання забудовы камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Сяргей Казлоўскі. Ён з пафасам прамаўляе: *«Столь масштабная работа проводится в интересах общества, а не потому, что кому-то не нравится частный сектор в мегаполисе»*. І далей: *«Вы только вдумайтесь в эти цифры: почти четверть жилой (около 11 % общей) территории города занимают одноэтажные дома. Львиная доля частных домов расположена в центральной части города, где создана наиболее плотная и дорогая инфраструктура. В благоустройство этих земель вложены огромные средства»*.

На жаль, спадар Казлоўскі забывае, кім гэтая інфраструктура аплочвалася. Нагадаю, што ўся інфраструктура (газ, каналізацыя, вада, тэлефон) аплочана тымі ж самымі індывідуальнымі ўладальнікамі жылля.

*«При этом благами пользоваться некому»*, – усклікае сп. Казлоўскі. Вельмі сумняваюся, што няма каму. Людзі ваеннага пакалення, а потым і пасляваеннага будавалі гэтыя дамы і яшчэ жывыя, будавалі на пустым месцы, на полі, зарослым пустазеллем, часцяком не атрымаўшы ад дзяржавы ніякай дапамогі, хіба што дарогі былі пракладзены бульдозерамі, дык з іх многія не заасфальтаваныя да гэтага часу.

Але ж асфальтаванне ўсіх дарог у межах горада прадугледжвалася адным з распараджэнняў Прэзідэнта. Забыліся выканаць? І жыць у гэтых дамах дзецям і ўнукам людзей таго пасляваеннага пакалення, той незабыўнай эпохі аднаўлення нашай сталіцы Мінска пасля вайны.

Затое як велічна намаляваны перспектывы карысці ад аднятых зямель: *«А при реконструкции на этих землях смогло бы поселиться в 7 – 10 раз больше людей, чем сейчас»*. Можна і ў 15 разоў болей пасяліць. Хіба ў гэтым горадабудаўнічая задача? Здыміце ўсе штучна створаныя абмежаванні, і людзі без капейкі дзяржаўных укладанняў да 2030 года падвояць, а, магчыма, і патрояць жылы фонд горада. Зямлі ў Беларусі дастаткова, каб разгарнуць масавае індывідуальнае будаўніцтва. Зразумела, што шкада цягнуць камунікацыі. Але гэта ўжо праблема стандартаў жыллёвых умоваў у грамадстве. Гледзячы пра што клапоціцца ўлада – ці пра чалавека, ці пра «эканомію» і шчыльнасць засялення гарадскіх кварталаў.

*«Понятно, что при такой «перестройке» столкновение личных и общественных интересов неизбежно»*, – мяркуе Сяргей Казлоўскі.

Думаю, што ніякага сутыкнення тут няма, як няма тут і ніякіх грамадскіх інтарэсаў. Хіба толькі генеральны план 2002 года прадугледжвае нанясенне шкоды экалогіі горада, а значыць, адпаведна, і здароўю людзей, эканоміцы горада, якасці пітной вады і г.д.

*«Но главный город страны в своем развитии не может ориентироваться на эмоции»* – высоўвае грунтоўны доказ сп. Казлоўскі. А на што ён павінен арыентавацца? Хіба «падсветка» праспекта Скарыны не «эмоцыі»? Станоўчыя эмоцыі людзей – галоўная задача горадабудаўніцтва. А адмоўныя эмоцыі – гэта адваротная рэакцыя арганізму, скіраваная на самазахаванне, можна сказаць, на выжыванне.

Блізкімі днямі на перакрыжаванні вуліц Собінава – Тыражная адбудзецца сход жыхароў Сельгаспасёлка (раёна сядзібнай забудовы ўздоўж вул. Багдановіча) у сувязі з вырашэннем лёсу іхніх дамоў. Запрошана кіраўніцтва адміністрацыі Савецкага раёна, Мінгарвыканкама, сродкі масавай інфармацыі.

Жыхары раёна выказваюць надзею, што ўлады будуць трымацца закона і «створаць заканадаўчыя рамкі працэсу і эфектыўныя механізмы па забеспячэнні доступу грамадскасці да эканамічнай інфармацыі, прадастаўлення грамадскім арганізацыям, гараджанам эфектыўнага доступу да судовых, адміністратыўных працэдураў у выпадках нанясення шкоды анавакольнаму асяроддзю раёна». Жыхары спадзяюцца, што ўлады прадаставяць жыхарам дамоў, якія падлягаюць зносу, эколага-эканамічныя разлікі запланаванай забудовы і выканаюць Указ Прэзідэнта № 726 ад 14.12.1999 года.

Можна сцвярджаць, што па сукупнасці сацыяльнага, эколага-эканамічнага і маральна-прававога складнікаў генплана 2002 года немагчыма інвестыцыйная трансфармацыя сядзібнай забудовы ўздоўж вул. Багдановіча і Някрасава ў высокашчыльны комплекс адміністратыўных і жылых шматпавярховых будынкаў у бліжэйшай перспектыве. І ў сувязі з гэтым неабходна зняць усе абмежаванні, накладзеныя рашэннем гарвыканкама на домаўладальнікаў у межах вуліц Усходняя – Собінава – права на прапіску, рэканструкцыю, новае шматпавярховае будаўніцтва, прыватызацыю зямельных участкаў і г. д.

Дарэчы, медыкі сцвярджаюць, што ў чалавека, які жыве на 10-м паверсе і вышэй, з цягам часу пачынаюць развівацца хваробы, звязаныя з «адрывам» ад зямлі. А ў людзей з саслабелай нервовай сістэмай і тым болей у асоб, якія церпяць на боязь вышыні, можа парушыцца псіхіка, лічыць галоўны псіхіятр Мінска Юры Сушчэня. Па словах спецыяліста, «спальныя» раёны з 9 – 12-павярховымі жылымі дамамі ледзь не насунутымі адзін на адзін – наогул пагроза здароўю. Чалаевек у такой кватэры не можа адчуваць сябе спакойна і ўпэўнена, бо не з'яўляецца гаспадаром двара – усё навокал «нічыё». Болей за тое, па словах Юры Сушчэні, да парушэння душэўнага і псіхічнага здароўя можа прывесці расцягнутая на гады аднастайнасць: пастаяннае назіранне, прыкладам, праз вакно ўласнай кватэры шэрай панельнай сцяны суседняга дома. Нярвовасць з парушэннямі псіхікі назіраецца ў мноства людзей сталага веку, пераселеных у панельныя, бязлікія шматпавярхоўкі. Зразумела, гэта лепш, чым жыць у зямлянцы, але сёння і час іншы, на двары XXI стагоддзе. Гэта таксама спрые напрузе ў грамадстве. Прыйдзе такі дзень, калі вам, шаноўныя горадабудаўнікі, прыйдзецца адказваць перад грамадствам за свае такія разлікі і пралікі. Разам з ростам экалагічнай свядомасці, экалагічнага светапогляду грамадскасць належна ацэніць адмоўны набытак нашых гарадоў.

У сацыяльна-палітычную плоскасць экалагічны і маральна-прававы аспекты горадабудаўнічага плана ўжо перайшлі. Засталося толькі павысіць экалагічную пісьменнасць людзей і эмацыянальны выбух цалкам магчымы. А «эмоцыі», якія здаюцца некаторым бюракратам не вартымі ўвагі, гэта тое, што, як пелася ў даўняй песні, «не задушыш, не заб'еш», бо такія эмоцыі – гэта здароўе дзяцей, настрой, і, урэшце рэшт, падманутая справядлівасць.

**Леанід ВЯЛІЧКА,**
**інжынер па наглядзе**
**за будаўніцтвам НАН Беларусі**

# «Прыроднае права...»

***Інтэрв'ю са старшынём Партыі БНФ Вінцуком Вячоркам аб праблемах мінскага Сельгаспасёлка і горада Мінска ўвогуле***

**– Спадар Вячорка, вы жыхар Савецкага раёна і ведаеце пра трывогі людзей, што жывуць у прыватным сектары Сельгаспасёлка. З жыхарамі гэтых кварталаў увайшлі ў канфлікт горадабудаўнікі. Наколькі сур'ёзныя падставы мае канфлікт, апісаны інжынерам і эколагам Леанідам Вялічкам?**

– Сельгаспасёлкам называецца адзін з буйнейшых у Мінску масіваў прыватнай забудовы. Гэта мясціна з асаблівым мікракліматам, большасць людзей жывуць побач на працягу двух-трох пакаленняў. Але гэтая мясцовая супольнасць можа знікнуць. У цяжкія пасляваенныя гады, калі была галеча і нішчымніца, людзі будаваліся на голым месцы за тагачаснай гарадской мяжой. Сяляне са зруйнаваных вёсак, нядаўнія партызаны і салдаты, рабочыя. Выклікае павагу тое, што яны змаглі пабудавацца, узгадаваць дзяцей, унукаў, трывала стаць на ногі без дзяржаўнай дапамогі. У савецкія часы прыватнай уласнасці, як вядома, не было, яна ўсяляк асуджалася – маўляў, «пережытак мяшчанства». Але ж права на прыватную ўласнасць у чалавека нельга забраць. Гэтыя людзі заслужылі права на сваю зямлю і дамы на ёй, і не якім-небудзь падманам, а шматгадовай працай пакаленняў. Цяпер у іх гэтую ўласнасць хочуць забраць.

**– Але, відаць, гэтыя дамы іх уласнасцю ўсё ж лічыліся. Нікому не прыйшло б у галаву сказаць, што гэта не іхнія дамы, а дзяржаўныя ці гарадскія, і з аднаго ў іншы можна пераехаць па ордэры. Бо ўлада не выдаткавала на іх ні граша...**

– Самі дамы – так. Многія маюць акты аб пажыццёвым спадчынным валоданні зямлёю, але не ўсе. Жыхарам не дазвалялі прыватызавацца і разбудоўвацца, кажучы, што гэты раён у горадабудаўнічых планах мае нейкую іншую будучыню. Зараз гэтых людзей, якіх так хітра «падвесілі», спрабуюць высяляць, даючы капеечную кампенсацыю і прапануючы танныя кватэры ў шматпавярхоўках дзе-небудзь у Малінаўцы.

**– А калі б яны мелі канстытуцыйна гарантаваныя, непарушныя правы на зямлю, што ім дало б гэта зараз, калі паводле горадабудаўнічага плану раён ідзе пад знос?**

– Яны маглі б прадаць зямлю, толькі калі б на тое самі пагадзіліся. Прадаць гораду альбо нейкаму багатаму домабудаўніку па рынкавай цане, бо Сельгаспасёлак цяпер ужо знаходзіцца, можна лічыць, побач з цэнтрам Мінска. Гэта не капейкі, а многія дзесяткі тысяч «умоўных адзінак». І людзі павінны самі прымаць рашэнне, як распарадзіцца сваёй маёмасцю, а не чыноўнік з гарадской бюракратычнай вертыкалі.

**– Людзі складваліся грашыма, каб праводзіць газ, зрабіць тратуар ці падвесці тэлефоны.**

– Сапраўды, жыхары самі рабілі інвестыцыі ў сваё добраўпарадкаванне. Яны альбо іх продкі, іх бацькі, што там пачалі жыць пасля вайны, перабраўшыся са сваіх знішчаных вёсак, за кроўны рубель цягнулі ўсе камунікацыі, акультурылі і цывілізавалі гэты раён.



**– Значыць, праблема ў тым, што ў гэтых людзей жадаюць танна забраць тое, што мела і стварала не адно пакаленне. А яшчэ псіхалагічны дыскамфорт: яны прывыклі жыць тут, але мусяць збіраць манаткі і перабірацца ў мікрараён. Гэтая праблема не толькі мінская: ва ўсіх былых савецкіх гарадах улады звыклі перасоўваць жыхарства, як нейкі статак з пожні на луг. Гэта непавага да гараджанаў, да іх традыцыяў.**

– Безумоўна. Але галоўнае – прыроднае права людзей удзельнічаць у вызначэнні свайго лёсу. Прыроднае права! Мясцовая грамада павінна ўдзельнічаць у абмеркаванні і вырашэнні мясцовых пытанняў. Існуюць нейкія горадабудаўнічыя планы. Аднак чаму маіх суседзяў не папыталі, чаму не ўлічаны іхнія правы, а іхніх прадстаўнікоў не запрасілі прысутнічаць пры рашэннях? Дагэтуль будучыня раёна ахутаная таямніцай. З аднаго боку, гаворыцца, што вялікая яго частка абапал вуліцы Багдановіча павінна пайсці пад знос, бо там з'явяцца нейкія буйныя агульнагарадскія аб'екты. З другога боку, бачна, што сям-там у гэтым раёне, нягледзячы на забарону будавацца, ідуць новабудоўлі. Значыць, хтосьці ведае, што застанецца, а што прызначана пад нож бульдозера. Ідуць пагалоскі, што гэтая зямля зусім не пад агульнагарадскія аб'екты пойдзе, а будзе перапрададзеная нейкім заможным ці блізкім да ўлады грамадзянам. Але тады паўстае пытанне: хто атрымае сапраўдную цану зямлі? Калі яе прададуць па рынкавым кошце праваможныя, на маю думку, гаспадары – цяперашнія ўласнікі – калі ласка, іхняе права. Але калі гэтыя грошы забірае чыноўнік – прабачце!

**– Аднак пакуль няма, ды і не было такіх структураў, у якіх жыхары вуліцы ці некалькіх вуліц маглі б аб'яднацца для адстойвання сваіх эканамічных інтарэсаў.**

– Вось тут мы выходзім на праблему рэальнай дэмакратыі. Мясцовае самакіраванне, якое ў нас было стагоддзямі, калі і ў гарадах было магдэбургскае права, і ў вёсках абіралі войта ці старасту, за савецкім часам было цалкам знішчана. Існавалі, праўда, раённыя саветы ў горадзе. Іх можна было ператварыць у самакіраванні, такія, якія зноў ёсць у нашых суседзяў - палякаў, літоўцаў, славакаў, але цяперашняя ўлада гэтыя мясцовыя саветы скасавала. Ёсць толькі раённая «вертыкаль», якая не выбіраецца людзьмі ды ім не падкантрольная. Усе людзі пазбаўленыя голасу на нізавым узроўні цалкам.

**– Сапраўды, на такім вулічным узроўні усе мы бяспраўныя. Не дэлегавалі права абараняць нашыя інтарэсы перад дзяржаваю мясцовай радзе альбо камітэту.**

– Ведаю, што цяпер жыхары Сельгаспасёлка спрабуюць самаарганізавацца, стварыць грамадскую арганізацыю для абароны сваіх інтарэсаў. Тут ім шчыра трэба пажадаць поспеху, дапамагчы юрыдычнай кансультацыяй, хаця адразу прадбачу, што ім будзе вельмі цяжка. Яны маюць права таксама стварыць грамадскі камітэт самакіравання.

**– Безумоўна, не проста выступіць супольна, калі ў кожнага справа вырашаецца асобна, бо розныя дамы, розны склад сем'яў, розная памяць. Горад мае не самы лепшы досвед перасяленняў, калі будаваліся так званыя «хрушчобы» і людзей перасоўвалі з цэнтра ў мікрараёны. Яны робяцца ўнутранымі мігрантамі не па сваёй волі. Прыкладам, ад Мінска майго дзяцінства засталося толькі некалькі дамоў. Горадабудаўнічыя планы хутка мяняліся: відаць, іх аўтары не ўмелі бачыць далей за 3–5 гадоў наперад. Нестабільнасць, адсутнасць павагі да традыцыі і правоў, дакладней кажучы – традыцыя бяспраўнасці зневажае асобу. Кожны мае права ведаць, дзеля чаго ён вымушаны ахвяраваць сваім набыткам, што будзе на месцы, дзе ён вырас, – пляцоўка пад стадыён ці магазін, ці «следчы ізалятар часовага затрымання» (які паставілі ў двары, дзе прайшло маё дзяцінства), ці прыватны магазін на зручна ачышчаным ад жыхароў месцы. А як бы вы, спадар Вячорка, арганізавалі сувязь «жыхары - гарадская ўлада – горадабудаўнікі», каб не было канфліктаў?**

– Хачу адказаць на ваш успамін «батанічнай» метафарай. Мінулае стагоддзе, на жаль, характэрнае тым, што ў людзей, якія мелі карані, іх адсякалі. Яны спрабавалі карані пусціць на новым месцы ў новых умовах – і зноў іх вырывалі, каб новыя пакаленні ўзрасталі «на гідрапоніцы». Але без каранёў у зямлі не вырасце здаровае трывалае зялёнае дрэва. Нельга гвалтам пазбаўляць людзей каранёў. У Мінску жыхароў прыватнага сектару нямала. Яны складаюць неад'емную частку нашага гарадскога насельніцтва і павінны мець права самі вырашаць свой лёс.

**– А наколькі сур'ёзная экалагічная небяспека ад знішчэння Сельгаспасёлка?**

– Я чытаў публікацыі Л.Вялічкі і падзяляю яго трывогу. Тэрыторыя між былым Камароўскім балотам, цяперашнім Цнянскім вадасховішчам і Навінкамі вельмі важная для водазабеспячэння Мінска. Жыхары паўночна-ўсходняй часткі нашага горада пакуль што п'юць чыстую артэзіянскую ваду. Калі разбурыць гідралагічны баланс, значыць, і гэтая частка сталіцы пяройдзе на піццё паверхневай хлараванай вады. Таму не павінна быць рэвалюцыйнага ўварвання нейкіх буйных будынкаў у даўно сфармаваную структуру мясцовага малапавярховага засялення.

**– Аднак у прыватным сектары жыве меншасць гараджан. І калі вынесці пытанне пра знос на агульнагарадскі рэферэндум, горад можа прагаласаваць за знос. Ці гэта немагчыма?**

– У тым і сутнасць дэмакратыі, якая ідзе «знізу», каб меркаванне мясцовай супольнасці мела такую самую вагу, што і меркаванне большасці. Іначай у дэмакратычных дзяржавах не было б плюралізму, знішчаліся б этнічныя і рэлігійныя меншасці: большасць прагаласуе – вынішчым. Павага да меркавання меншасці - гэта аснова еўрапейскай цывілізацыі. Ці мы еўрапейцы, ці мы прыхільнікі дзікунскага падыходу – узяць каток і ўсё закатаць пад асфальт. Што да перавагаў: быў час, калі лічылася непрэстыжным жыць ва ўласным доме, быў час, калі Сельгаспасёлак лічыўся вёскай у горадзе. Цяпер адбываецца пераацэнка. Аказалася, што працоўны ўклад некалькіх пакаленняў ва ўласны лапік зямлі меў сэнс. І потым –



# «Прыроднае права...»

прыватны сектар дае значна меншую экалагічную нагрузку на зямлю. І без таго Мінск самы кампактны сярод аналагічных буйных гарадоў свету. У іншых гарадах асноўная тэрыторыя занятая прыватнымі пабудовамі, і таму яны значна больш разлеглыя. Праўда, там людзям давалі магчымасць зарабляць, будаваць, падымацца...

**– Праўду кажучы, пражыўшы ў Мінску ўсё жыццё і шмат пабачыўшы, я не надта веру ў горадабудаўнічыя планы. Хочуць як лепей - атрымаецца як заўжды. Вось, напрыклад, Верхні горад Мінска павінен вучыць нас асцярожнасці. Нагавораць узнёслых словаў - а вынік адваротны. Дзе тая апетая чыноўнікамі рэстаўрацыя? Проста адбыўся перадзел маёмасці, схаваны за нібыта клопатам пра гісторыка-архітэктурныя каштоўнасці. Што да зносу аднапавярховай прыватнай забудовы, тут таксама адбываецца новы перадзел гарадскіх плошчаў. Што думаеце на гэты конт?**

– Вялікая бяда адбылася з Верхнім горадам. Шмат дамоў у нашым гістарычным цэнтры было зруйнавана, а замест іх паставілі муляжы. Разумею, калі так аднаўлялі пасля вайны цэнтр Варшавы, ушчэнт зруйнаванай акупантамі. А ў нас у 1990-я гады якая была вайна? Ніякай вайны, проста абыякавасць, відавочная пагоня за хуткімі грашыма. Цэнтр 2-мільённай сталіцы краіны, натуральна, вельмі прыбытковае месца, калі ўхапіць там сабе нерухомасць. Сельгаспасёлак – не гістарычны цэнтр, але і да яго ўзнікае камерцыйны інтарэс. Ён лічыўся ускрайкам, а зараз прылягае да цэнтра. Гэта прывабны раён з свежым паветрам, недалёкай воднай зонай.

**– Дык як усё ж вырашыць – зносіць, не зносіць? Як бы вы паступілі, калі б вам давялося прымаць рашэнне?**

– Лічу, што гэтыя кварталы трэба зберагчы менавіта як зону прыватнай забудовы. Што да архітэктурнага выгляду гэтай часткі горада, то нам патрэбна рабіць эканамічныя рэформы, даць людзям магчымасць добра зарабляць, каб яны маглі дабудоўвацца, замаўляць добрым архітэктарам новае аблічча сваіх сядзібаў. Тады гэтыя дамы стануць інтэгральнай часткай сучаснага еўрапейскага горада, яны будуць сімпатычнымі і унікальнымі.

**– Побач з прыватнай забудовай існуе маральна састарэлая дзяржаўная – у выглядзе хрушчобаў, прывабных хіба толькі для сатырыкаў. Дзе ўзяць сродкі на рэканструкцыю гэтых няўтульных кварталаў?**

– Для рэканструкцыі камунальнага жылога фонду і горад, і раёны павінны мець паступленні ў бюджэт. Распараджацца ім павінны паўнамоцныя гарадское і раённыя самакіраванні, абраныя людзьмі, а не вертыкаль, як цяпер. Гэтыя паступленні трэба фармаваць у тым ліку і ад продажу зямлі ў прыватную ўласнасць. У нас ёсць шмат іншай зямлі ў горадзе і побач з ім пад будаўніцтва, і яе хопіць надоўга, каб папаўняць гарадскую і раённыя касы, і з гэтых грошай весці рэканструкцыю хрушчовак, іншых дамоў. Пры гэтым не кранаючы раёны, дзе, дзякуй Богу, жывуць людзі, самі зарабляюць на тое, каб далей забудоўвацца, каб у спадчыну дзецям і ўнукам перадаць. Нашто чапаць тую мікрасістэму, якая ўжо многія дзесяцігоддзі нармальна спраўляецца без дзяржавы, няхай ёй толькі дзяржава не перашкаджае.

**– А калі горад возьме і адменіць сваё рашэнне пра знос, вырашыць, што трэба даць гэтым гаспадарам грашовыя пазыкі, каб яны свае дамы палепшылі і знутры, і звонку – мансарды дабудавалі, дахоўку новую паклалі і г. д.? Гэта фантазія?**

– У нармальнай эканоміцы чалавек ідзе ў банк, бярэ крэдыт пад заклад свайго жытла ў яго цяперашнім выглядзе і далей займаецца будаўніцтвам. А наступны крок вось які. У дзяржаве, дзе ўласнасць шануецца, яны ўзялі б крэдыт пад заклад зямлі. Для гэтага патрэбныя інстытуцыяльныя змены ў нашым заканадаўстве, звязаным з уласнасцю. І тады наш дробны земляўласнік, як і ва ўсім свеце, не будзе мець праблемаў. Пайшоў у іпатэчны банк, узяў пад сваю зямлю грошы – і будуйся.

**– Але ж у нас такога банка і такіх законаў няма і, здаецца, не прадбачыцца.**



- Сапраўды, у нас глыбокай рэформы ўласнасці так і не адбылося. Беларусы па-ранейшаму – народ, пазбаўлены ўласнасці.

**– Такім чынам, узгаданыя Л.Вялічкам у артыкуле экалагічныя праблемы Сельгаспасёлка і названыя вамі праблемы ўласнасці яго жыхароў сведчаць, што наспелі змены і ў мясцовым самакіраванні, і ў эканамічным заканадаўстве. Але пакуль тыя законы на чарапасе да нас паўзуць, што, на вашу думку, было б лепш зрабіць?**

– Трэба абараніць правы жыхароў, перагледзеўшы рашэнне аб зносе. Для пачатку - не рабіць паспешлівых крокаў хаця б пару гадоў. За гэты час, я ўпэўнены, наша краіна нарэшце павернецца да сапраўднай дэмакратыі, з'явіцца павага да народнай думкі, і ўсе пытанні можна будзе вырашыць у інтарэсах людзей. Каб яны не наракалі на дзяржаву.

**– Хацелася б мне быць такім аптымістам, спадар Вячорка. Вы адчуваеце такі жывы пульс у грамадстве?**

– А куды ж яму падзецца. У гэтых канкрэтных неспрыяльных умовах паказальна, што людзі ўсведамляюць сябе сапраўднымі грамадзянамі, у якіх ёсць законныя інтарэсы, і што дзяржава павінна іхнія інтарэсы бараніць, а не душыць. Гэта важны працэс, які адбываецца на нашых вачах. Мы, звычайныя людзі, якім баліць нешта канкрэтнае, павінны зразумець, што трэба згуртоўвацца, дамагацца сваіх правоў, тады мы памяняем нашу краіну ў цэлым, яе палітыку і эканоміку.

**– Ці мае Партыя БНФ, якую вы ўзначальваеце, эканамічную праграму?**

– Зразумела. І падрабязную, і больш даступны варыянт. Пісалі праграму нашы вядомыя эканамісты. І каб яна зараз дзейнічала, праблемаў Сельгаспасёлка папросту б не ўзнікла. З яе тэзісамі можна пазнаёміцца на інтэрнэт-сайце **http://pbnf.org**.

**– А калі б да вас падышоў на вуліцы звычайны чалавек, не эканаміст, і папрасіў коратка і ясна паведаць, у чым яе сэнс, - як бы вы яму выклалі?**

– Даць людзям магчымасць працаваць і зарабляць, каб яны маглі жыць дастойна. Спрасціць і знізіць падаткі, бо яны ў нас разы ў два большыя за нямецкія. Абавязкова прыступіць да шырокай прыватызацыі, найперш у сферы гандлю і паслугаў. Гарантаваць абарону прыватнай уласнасці, у тым ліку на зямлю. Толькі тады людзі будуць пачувацца гаспадарамі. Інакш так і будзем бяспраўнымі кантрактнікамі.

**– Дзякуй за шчырую размову.**

**Гутарыў**
**Кастусь ТАРАСАЎ**

# «Крыша едет»

## *Ці парушаем мы заканадаўства карыстаючыся беларускай мовай?*

Здаецца адказ на гэтае пытанне відавочны. Канешне не! Канстытуцыя Беларусі гарантуе ўсім грамадзянам бесперашкодна карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай. А ў артыкуле 172.2 Адміністрацыйнага кодэкса нават прадугледжана адказнасць за стварэнне перашкод у карыстанні дзяржаўнымі мовамі. Як гавораць, закон цалкам на баку грамадзяніна незалежна ад яго «моўнай прыналежнасці».

Але ўжо больш за год цягнецца справа па пастаноўцы на ўлік супрацоўнікаў Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Міласэрнасць», якія мелі неасцярожнасць» запоўніць формы дакументаў персаніфікаванага ўліку па-беларуску. 18 красавіка 2003 года гэтае грамадскае аб'яднанне звярнулася ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Першамайскага раёна г. Мінска з просьбай зарэгістраваць у сістэме персаніфікаванага ўліку супрацоўнікаў арганізацыі. Але загадчык аддзелу фонду спадар Дзямідаў не прыняў дакументы. І ў лісце за №6/998 ад 24.04.2003 г. патлумачыў, што ў адпаведнасці з п. 4 Пастановы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва №16 ад 27.09.2000 г. дадзеныя на супрацоўнікаў **павінны запаўняцца толькі на рускай мове.** А выкарыстанне беларускай мовы ў дакументах персаніфікаванага ўліку для першаснай рэгістрацыі РГА «Міласэрнасць» неправамоцнае, таму дакументы запоўнены з парушэннем дзеючага заканадаўства. Пацвердзілі абгрунтаванасць адмовы «па моўнай» прыкмеце і ў Мінскім гарадскім упраўленні Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва. Начальнік упраўлення спадар Лапікаў патлумачыў, што праграмнае забеспячэнне, якое выкарыстоўваецца пры вядзенні персаніфікаванага ўліку, не падтрымлівае беларускую мову і не дазваляе ўносіць у базу дадзеных на беларускай мове звестак. Далей яшчэ цікавей. 29 снежня 2003 г. судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда, якая павінна стаяць на абароне інтарэсаў законаў, у складзе Лугінай, Крапіўкі і Салаўёвай устанавіла, што РГА «Міласэрднасць» падаўшы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Першамайскага раёна г. Мінска **звесткі на беларускай мове парушыла дзеючае заканадаўства.**

У жніўні 2004 г. адбылося пасяджэнне Гаспадарчага суда г. Мінска і па словах старшыні РГА «Міласэрнасць» Віктара Маркава суд не знайшоў парушэння заканадаўства ў тым, што грамадзянам Беларусі адмаўляюць карыстацца беларускай мовай. Дарэчы дагэтуль рашэнне мінскага Гаспадарчага суда немагчыма атрымаць у пісьмовым выглядзе, каб абскардзіць у вышэйшай інстанцыі.

У гэтай гісторыі мяне здзіўляе адно, што ні адна службовая асоба, ні адзін суддзя не стаў на абарону **законных правоў грамадзян карыстацца беларускай мовай**. Відавочна нават чалавеку без юрыдычнай адукацыі, што «Інструкцыя па запаўненні форм дакументаў персаніфікаванага ўліку» Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва складзена з парушэннем дзеючага заканадаўства. І трэба прымусіць тое ж міністэрства прывесці сваю інструкцыю ў адпаведнасць з канстытуцыйнымі нормамі. Праграмнае ж забеспячэнне, якім карыстаецца Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва на апаратным узроўні падтрымлівае беларускую мову. Пра гэта заявілі прадстаўнікі фірмы Oracle у Мінску і Маскве і дазваляе ўносіць у базу дадзеных звесткі па-беларуску. І калі б Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва звярнуўся да гэтай кампаніі яны б здолелі правесці лакалізацыю свайго прадукту пад беларускую мову. Але дзяржаўныя чыноўнікі лічаць іначай. Калі карыстаешся беларускай мовай – парушаеш заканадаўства (цікава – якой жа краіны?).

У кагосьці добра «крыша паехала».

**Сяргей КРУЧКОЎ,**
**намеснік старшыні ГА**
**«ТБМ імя Ф. Скарыны»**

В соответствии со статьей 5 Закона Республики Беларусь «Об индивидуальном (персонифицированном) учете в системе государственного социального страхования» Правила индивидуального (персонифицированного) учета застрахованных лиц в системе государственного социального страхования утверждаются Советом Министров Республики Беларусь.

Плательщики страховых взносов обязаны представлять в установленном Правилами порядке в Фонд социальной защиты населения сведения, необходимые для ведения персонифицированного учета (статья 10 Закона).

В соответствии с пунктом 12-1 Правил индивидуального (персонифицированного) учета застрахованных лиц в системе государственного социального страхования, утвержденных Постановлением Совета Министров Республики Беларусь №837 от 08.07.1997г., порядок заполнения форм документов персонифицированного учета устанавливается Министерством труда и социальной защиты.

Порядок и требования заполнения документов изложены в Инструкции по заполнению форм документов персонифицированного учета, утвержденной Постановлением Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь № 16 от 27.09.2000.

В соответствии с пунктом 4 Инструкции ДПУ заполняются на русском языке ручкой с чернилами (пастой) черного или фиолетового цвета заглавными печатными буквами или при помощи средств вычислительной техники. Документ, содержащий ошибки, зачеркивания, исправления, не заверенный печатью, без необходимых подписей, является недействительным и возвращается плательщику страховых взносов.

Орган Фонда не принимает документ, заполненный с нарушением требований настоящей Инструкции, и обязан потребовать заполнения нового документа (пункт 5).

# Радаслоўная словаў

Станіслаў СУДНІК

## Індаеўрапейская каранёвая аснова беларускай мовы і даіндаеўрапейскія карані

Кожная мова, у тыя ліку і беларуская, у звычайным сваім стане з'яўляецца шматэлементнай гукава-сэнсавай сістэмай, г. зн. сістэмай, дзе спалучэнне некалькіх гукаў і нават адзін гук нясуць пэўную сэнсавую нагрузку. У залежнасці ад багацця і развітасці мовы адной сэнсавай адзінцы можа адпавядаць некалькі гукавых формаў і адна гукавая форма можа мець некалькі сэнсавых значэнняў. Як крайнія з'явы моўнага спектру можна разглядаць мову глуханямых, дзе прысутнічае сэнс і адсутнічае гук, і мову дрэсіраваных папугаяў ці варон, дзе ёсць гукі, але сам папугай не ведае іх сэнсу.

Гукава-сэнсавыя моўныя сістэмы маюць яшчэ і тую асабліваснь, што, гаворачы мовай біёлагаў, яны жывыя, гаворачы мовай тэхнікі, гэтыя сістэмы самаўдасканальваюцца і самаразвіваюцца.

Моўная сістэма, зноў звернемся да біялагічнай аналогіі, не ўяўляе сабой нейкай павуціны, дзе ўсё арганічна і дакладна групуецца вакол нейкага цэнтра, не ўяўляе сабой сотаў, дзе слова. шчыльна падагнанае да слова Моўная сістэма ўяўляе сабой сістэму блізкую да экалагічнай сістэмы пад назвай «лес» або «хмызняк».

Гука-сэнсавы «моўны лес» уяўляе сабой набор малазвязаных, або зусім не звязаных паміж сабою карэнняў і разлапістую пераплаценую ўздоўж і ўпоперак крону. Кожны корань вызначае, як бы гатунак моўнага дрэва, а разгалінаванасць кроны залежыць ад сэнсавай нагрузкі на гэты корань.

Паколькі любая сістэма развіваецца ад простага да складанага, то першапачатковыя моўныя карані павінны былі быць малагукавымі (складацца з 2–3 гукаў).

Ведаючы біялагічную магчымасць чалавечага горла па вытворчасці гукавай разнастайнасці і магчымасці чалавечага вуха па ўспрыняцці гэтай разнастайнасці, а ўся гэтая разнастайнасць практычна не выходзіць за 50 гукаў, можна матэматычна дакладна вылічыць колькасць першапачатковых малагукавых каранёў. На практыцы ў кожнай мове задзейнічана толькі частка ад магчымага. Шматгукавыя карані – з'ява больш позняя. Узрост іх вымяраецца тысячагоддзямі. А то і стагоддзямі, у той час як малагукавыя карані маюць узрост у дзесяткі тысяч гадоў. Задача гэтага артыкула не паказаць існаванне беларускай мовы 40.000 гадоў да нашай эры, а толькі разгледзець некаторыя моўныя дрэвы, якія выраслі з гэтых першапачатковых малагукавых каранёў. Сістэматызацыя, устанаўленне храналагічнай паслядоўнасці з'яўлення гэтых каранёў у розных мовах цягне на многія навуковыя працы.

Мы тут абмяжуемся фрагментарнымі замалёўкамі. Пачнём з кораня -дзіў-.

### – дзіў –

Чаму мы пачалі менавіта з гэтага кораня? Таму, што Дзіў – вярхоўны бог у дахрысціянскім славянскім пантэоне. Гэтае слова сугучнае з лацінскім *Деus* – бог, з грэчаскім *Teos* – бог, з санскрыцкім: *div* - неба, *divauhas* – нябажыхар, бог, *diva* – бог, нябесны і з цыганскім *дэвал* – бог.

Бог Дзіў і вядомы ў беларускай міфалогіі і адначасова невядомы. У гарадзенскім універсітэце студэнты вучаць Дзіва. Эрнэст Ялугін выводзіць Дзіва ў адным з сваіх раманаў. У Мсціславе ёсць Дзівава гара. Разам з тым Дзіў малавядомы ў фальклоры. Ён не мае свайго свята, як, скажам, Купала ці Каляда. Не згадваецца ён і ў афіцыйных падручніках па гісторыі. Няма згадкі пра Дзіва і ў энцыклапедычным слоўніку «Беларуская міфалогія» (Мінск, «Беларусь», 2004), хаця там ёсць Дзіевас (Дзіеўс, Дэйвэ) – вярхоўны бог балцкага пантэону. Чаму ж забылі Дзіва ў Беларусі? Мабыць, таму, што гэта быў вельмі старажытны бог і, мабыць, добры.

У беларускай мове корань - дзіў - даў такія словы, як *дзівосы, дзівосны, дзіўны, дзіва, здзіўленне, здзівіць, дзівіцца*. Ад гэтага ж кораня і *дзівак*, і рускае *удивление, диво*, і ўкраінскае *диво* і *дивітця*, і трава *дзівасіл*. Ад гэтага кораня вялізнае гняздо словаў у польскай мове, сярод якіх *dzivo* – дзіва, прывід, *dzivolong* – дзівосная істота, *dzivozona* – лясны дух у вобразе жанчыны.

Аналагічная сітуацыя і з іншымі славянскімі мовамі.

У санскрыце велізарнае гняздо словаў на *div* і *dev* не паддаецца пералічэнню: *deva-matar* – маці багоў, *deva–raj* – цар багоў, *divasa* – неба, дзень, *diva–kara* – сонца і г. д.

І менавіта праз санскрыт мы можам вызначыць іпастась бога Дзіва.

Побач з назвай сонца як *divakar*a тут мы маем і назву *dinakara*. Даслоўна гэтыя назвы абазначаюць: той, хто стварае неба, і той, хто стварае дзень.

Таму бог Дзіў быў богам сонца, святла, дня, светлага неба. Гэта быў светлы бог, а значыць і добры, таму яго і не баяліся. І, нават, паводле Эрнэста Ялугіна лічылі богам дзівакоў і жартаўнікоў, злёгку іранічным.

Ён і сапраўды мог быць іранічным, бо ён даваў асноўнае – святло, а святло – гэта жыццё. Без яго ўсе астатнія багі былі нічога не вартыя.

Нажаль мы не можам заглянуць пакуль што глыбей за санскрыт, але, безумоўна, корань - дзіў - існаваў яшчэ раней і значна раней.

### – чын –

Сёння ў беларускай мове слова *чын* набыло дастаткова своеасоблівае адценне, напрыклад, у спалучэнні «Слуцкі збройны чын». У прынцыпе без асаблівага напружання слова чын можна атаясамліць са словам дзеянне. Польскае слова czynnosc і абазначае занятак, справу, дзейнасць. З кораня чын тут таксама вырасла разгалінаванае моўнае дрэва. Дзеясловы *адчыніць, зачыніць, расчыніць* (брагу, любую рошчыну). Тут жа рускія словы *подчинить* – падпарадкаваць, *починить* – адрамантаваць. Беларускія назоўнікі *ўчынак, адпачынак, прычына, пачын, сачыненне, начынне, злачынства, дабрачыннасць, чынш, спачын, чыннік, чыноўнік...*

Частка гэтых слоў мае распаўсюджанне ў іншых славянскіх мовах – *начинание, начинка, чинодрал*.

Ва ўсіх гэтых словах корань - *чын* - нясе значэнне дзеяння. Нават у словах *чыноўнік* – чалавек, які мае права на адпаведнае дзеянне; *чын* – ступень росту чыноўніка, *чынш* – грашовая канпенсацыя заміж адпрацоўкі дзеяння і дзякла.

Гэты корань мала праглядваецца ў іншых блізкіх індаеўрапейскіх мовах па-за славянскімі. І толькі ў санскрыце мы знайходзім *cint* (чынт) – думаць, клапаціцца, *cinta* – думка, задума, клопат, план. Пры пераходзе ад чынты – думкі да чына – дзеяння пры захаванні гучання адбылася трансфармацыя сэнсу. У выніку гэтай трансфармацыі мы павінны былі б пад словам чын разумець абдуманае, спланаванае дзеянне.

### – лад –

Слова *лад* аказваецца даволі складаным для даследавання і не толькі з-за таго, што корань - лад - даў вельмі разгалінаванае моўнае дрэва і адгалінаванні гэтага дрэва вельмі разнастайныя, а яшчэ з-за таго, што гук *д* гэтага кораня церпіць шматлікія і складання пераходы то ў *г*, то ў *ж*, то ў *дз*, то ў *дж*.

Лад у беларускай мове атаясамліваецца са словамі парадак, сістэмнасць. Дзяржаўны лад, грамадскі лад. Сэнсава блізкія да яго словы *уклад, улажэнне*. У гэты шэраг становяцца словы *наладзіць, адладзіць, прылада, наладзіць* (зрабіць лад), *суладдзе, наладка, зладзіць, прыладзіць* і г.д.

У нашых продкаў лад – парадак – заўсёды ўвязваўся з дабром і прыгажосцю. Гэтыя адценні набываюць словы *ладны*, славянская *Лада* (Ладо), рускае *ладно* (добра).

Дзеяслоў ладаваць (парадкаваць, укладваць у пэўным парадку) даў велізарнае гняздо словаў у польскай мове. Лінгвісты выводзяць гэты дзеяслоў з нямецкага *laden* – грузіць, *ладунак* (ladunek) – груз, *laduga* – марскі груз, *ladovany* – пагружаны, *ladovnia* – склад, *ladovnica* – патранташ і шмат іншых. Частка гэтых словаў ужываецца і ў беларускай мове (*ладунка* – паляўнічая сумка для пораху і шроту і інш.)

Дзеяслоў *ладаваць* выводзіць і на словы *ладдзя, лодзь, лодка*.

Дзеяслоў *ладаваць* практычна з'яўляецца сінонімам дзеяслова *класці*, а дзеяслоў *укладваць* нагогул уяўляе сабой вытворную ад іх абодвух. Ладаваць значыць класці ў пэўным парадку. Рускае *клад* таксама ад класці з ладам.

У класічных мовах Еўропы мы знайходзім корань *лад* толькі ў грэчаскім слове *ladi* – алей, якое з цяжкасцю стасуецца да ўсіх раней названых словаў. Яно хутчэй выводзіць нас на словы *аладка*, рускае – *оладья*.

А вось санскрыт ізноў ставіць усё на месца.

Санскрыцкае слова *lag* мае значэнні: трымацца, прытрымлівацца каго-небудзь, чаго-небудзь, заставацца верным, адданым каму-небудзь, чаму-небудзь зыходзіць з чаго-небудзь. Гэтыя значэнні якраз і абазначаюць лад-парадак паводзінаў.

### – пал –

Чалавек пазнаёміўся з агнём так даўно, што ніякая мова не захавала таго першага слова, якім першабытны чалавек назваў гэтую з'яву. Прынамсі бог Агню меў сваё імя ўжо за некалькі тысяч гадоў да нашай эры. Землярobствам людзі пачалі займацца таксама даўно і выпальваць лясы пад поле пачалі даўно.

Дзеяслоў *паліць* ма.е корань - пал - гэты ж корань маюць словы *паляна, палена, палка, паліца*.

Характэрна, што палка, дубінка, якой наводзілі лад-парадак, у санскрыце мае назву *laguda*, той, хто мае палку, называўся *lagudin* і г. д. Як блізка слова laguda да слова *лагодны*. Лагодным на аснове палкі быць не цяжка.

Вялікая паляна – гэта поле. І тут ужо словы *палоць, праполка, паляўнічы, паляванне*.

Тут жа рускае слова *пол* і *полати*, беларускія *палок* і *палаткі*. Тут жа *палетак*, і *палатно*, і *запалкі* з запальнічкай. Тут жа *полымя, палымяны*.

Лінгвістычная сувязь дзеяслова паліць і назоўніка поле відавочная.

Але, як было сказана, гэтыя словы настолькі даўнія, што і ў санскрыце звязаць іх не проста. Справа ў тым што ў санскрыце слова поле ідзе ўжо адвязаным ад слова паліць. Яно само ўжо ўтварае гняздо словаў: phal – нараджаць, вытвараць, спець, выспяваць.

*Phala* – садавіна, гародніна (плод, фрукт), поспех, дошка, паліца.

*Phala–grahi* – урадлівы, багаты.

*Phalata* – спеласць.

*Phfla-da* – той, хто дае клады, хто дае вынік.

*Phalahaha* – ліштва, дошка.

*Phalli kar* – чысціць, ачышчаць (зерне).



**Вядомы беларускі паэт і публіцыст, рэдактар газеты «Наша слова» і часопіса «Лідскі летапісец» Станіслаў Суднік адзначае свой першы юбілей – 50-годдзе.**

**Чытачы ведаюць спадара Станіслава як чалавека глыбока адданага справе адраджэння беларушчыны, праніклівага даследчыка даўніны, патрыёта Лідчыны. Дзякуючы яго намаганням многія старонкі гераічнага мінулага лідскай зямлі ўвайшлі ў скарбніцу нашай занатаванай гісторыі і сталі яе каштоўным набыткам. Невялічкі матэрыял, які прапануецца ўвазе чытачоў у гэтым нумары, сведчыць яшчэ аб адным захапленні спадара Судніка – параўнальнай гісторыі нашай мовы.**

**З нагоды юбілею рэдакцыя Новага Часу шчыра віншуе імянінніка і жадае яму новых паэтычных твораў, поспехаў, жыццёвай удачы і моцнага здароўя.**

Паліць і палоць – таксама ачышчаць ад лесу і пустазелля

*Pala, palala* – салома.

Таму застаецца пытанне, які парастак з кораня - *пал* - першы: дзеяслоў паліць ці назоўнік поле з дзеясловам палоць (рабіць поле).

### – два –

Два – гэта лічба. Гэта лічба з якой лічэнне становіцца лічэннем, бо пакуль ёсць толькі адзінка ніякага лічэння яшчэ няма. Наша два гучыць, як два ўжо некалькі тысячагоддзяў. У санскрыце *dva* – два.

*Dvaka* – разам, па – два (падвойна).

*Dvaja* – двайны, дваякі.

І тут жа.

*Dvari* – які стрымлівае, перашкаджае.

Dvar – адтуліна, выйсце, вароты, дзверы.

*Dvara* – тое самае.

*Dvaraka* – вароты, дзверы, брама.

*Dvara–stha* – той, хто стаіць пры дзвярах.

Такім чынам слова дзверы ўтворана ад слова два (дзве). Дзверы – гэта тое, што падзяляе (злучае) свет на двое.

*Dvi* – таксама два.

Але тады становіцца зразумелым, што двор паходзіць ад гэтага dvar і абазначае, тое, што знаходзіцца за дзвярыма (варотамі, брамай). А ўжо само слова двор - і вясковы, і гарадскі двор, і маёнтак. Двор гэта і ўсё, што знадворку, а таму мы маем і слова *надвор'е*.

Ад двара паходзіць і *дварэц* (малы двор у беларусаў), *дворец* (палац у расейцаў), *dvorzec* (вакзал у палякаў і чэхаў). Дарэчы паходжання слова *dvorzec* ад лічбы два зусім лагічнае. Вакзал таксама падзяляе людзей на дзве часткі; тых, хто паехаў і тых, хто застаўся.

Ну і вядома: *дваранін, дворня, дварэцкі, прыдворны, надворны, дварняга*. Каранем усіх гэтых словаў ёсць лічба два.

У тым жа ключы мы можам разгледзець і шмат іншых каранёў беларускіх словаў.

І чым больш мы іх будзем разглядаць, тым відавочней, што абсалютная большасць малагукавых каранёў беларускіх словаў праходзяць праз тысячагоддзі, фіксуючыся ў санскрыце, хецкай мове, класічных еўрапейскіх мовах. А над гэтымі карэннямі паднялася купчастая, багатая, суцэльная крона жывой беларускай лексікі, нідзе не запазычанай, а напрацаванай нашым народам у канкрэтных гістарычных умовах на канкрэтнай геаграфічнай прасторы. І тут да веку раскашаваць нашаму вечна зялёнаму і квяцістаму моўнаму лесу.

 



Вячаслаў Дубінка

# 42 гады «ляснога» палону

Што можна зрабіць за сорак гадоў? І яшчэ два з паловай у дадатак. Дзіўнае пытанне, ці не праўда. Пабудаваць чортаў тузін пекных дамкоў, пашыць мо тысячу пар добрых ботаў, сплесці вагон пекных кашоў, а не, дык аднаму, без памагатых, пракласці дарогу ў гіблым балоце, выгадаваць сыноў, пасадзіць сад, шмат павандраваць па белым свеце. І людзей паглядзець, і сябе паказаць, розуму набрацца, з тае прычыны і багацеем стаць..

А можна ўсе гады прабадзяцца па родным лесе, ад улады савецкай хаваючыся.

Я перабіраю фотаздымкі, на якіх у розных прыродных інтэр'ерах Іван Васільевіч Бушыла. 42 гады ён хаваўся ў лесе, а выйшаў адтуль, з добраахвотнага палону, у студзені 1990 года. Дзень добры, новае жыццё. Як ты набліжаў камунію родны бастынскі калгас «Шлях Леніна»? Здарова былі, лунінецкія палешукі, землякі, дый «ацалелыя», значыцца, жывыя родзічы.

У тым незабыўным 1990 годзе ўвесь студзень слава «тапіла» палешука-валацугу Івана Бушылу. Ва ўсіх сродках масавай інфармацыі, на відных месцах сенсацыйная навіна. І пацягнуліся спецыяльныя карэспандэнты, фотакоры, мясцовыя цікаўныя журналісты на Палессе, у глухамань, сіратлівую вёску Бастынь. Там ён жыве, герой, незвычайны чалавек, куды там Рабінзону Круза да Івана Бушылы: 42 гады не дваццаць восем гадоў.

Паехаў і я ў студзені 1990 года. А чаму не паехаць, вельмі цікава. Я сам рамантык, валацуга, больш сарака гадоў бадзяюся па родных весях, аблазіў горы Каўказа, Цянь-Шаня, Паміра, Алтая. Ганяў плыты з тысячамі кубоў дзелавой драўніны па Енісеі, ад Тувы да Ігаркі, збіраў жывіцу ў Краснаярскай тайзе, вандраваў з геолагамі па Камчатцы, браў непасрэдны ўдзел у розных экспедыцыях практычна-навуковае накіраванасці, удосталь насёрбаўся пахаў тайгі і панурага бязлюддзя тундры. Адно падарожжа па Калыме ўсё звонкае лета з гарачынёй пад сорак, вартае кнігі...

Паўдня праляцела, пакуль дабіраліся да палескай Бастыні. І вось ён, праслаўлены на ўвесь свет Іван Васільевіч Бушыла, патрапіўшы на бачыны знакамітай Кнігі рэкордаў Гінеса за 1990 год. Моцная, далёка не старэчая фігура, а яму за шэсцьдзесят. Спакойны, крыху стомлены погляд, абветраны, чыста паголены твар, па-сялянску ўчэпістыя, напрацаваныя рукі. Ватоўка на плячах чыстая, пэўна нядаўна з крамнае складоўні, наваксаваны кірзач на нагах, на галаве шапка-аблавушка. Замест прывітання, нібы вінавацішца:

– Я пакуль бянтэжуся, мне цяжка вось так ушчынную з людзьмі, не ведаю, што гаварыць.

Нават на крыху закавырыстыя пытанні адказвае ахвотна, не мітусіцца, а, як падалося, з нейкай прасветленай радасцю. І, пэўна, паляшук узрушаны ад такое павагі, якая раптоўна абрынулася на яго за апошнія тыдні. І наўрад ці хто калі далёка адсюль ведаў, што ёсцека такая вёска Бастынь сярод балотных абшараў, ад Лунінца саўсім блізка.

## За каго ж ты, Іване, жытуху спляжыў?

Адкуль жа бярэ пачатак бушылаўская рабінзанада. Пасляваенны 1947 год. Былы ратнік пяхоты-матухны Іван Бушыла вярнуўся дадому, на Палессе. У мірнае жыццё нырца даў былы кулямётчык 312 дывізіі Першага Беларускага Фронту, загартаваны акопным жыццём, ад прыроды моцнага здароўя. Але брала трывога, што ў Бастыні не будзе яму спакою, не адпачне душа за плугам, не сцешыцца за ўтомнай працай. У мясцовым калгасе не знайшлося работы, пайшоў на ганцавіцкі лесапавал, нарыхтоўваў лес для шахтаў Данбаса. У тым жа годзе накаціўся злавесны ракавы дзень. Вяртаўся да хаты Іван адвячоркам знаёмай лясной сцежкай да Бастыні. А насустрач два міліцыянты. Адзін з іх, старшы па званні, з Лунінца, нахабны – Хахлоў. Спыняюцца. Хахлоў брыдка мацюкнуўся, назваў маршала Жукава бандытам. Бушыла ў адказ не сцярпеў абразы, даў славесны адпор, ён жа ваяваў пад началам галоўнага «каваля» Перамогі. І тут Хахлоў, якому «належала ледзь не ўся раённая ўласць», хап за наган, але сцішыў абароты, злосна паабяцаўшы Бушылу вярнуцца да пачатае размовы. Увечары, напалоханы Хахловым, Бушыла, не вагаючыся, сабраў сціплыя бэбахі ў торбу, і знік у лесе. Пайшоў, каб вярнуцца дахаты толькі праз 42 гады. Вось і ўся кульмінацыя вострага сюжэта. Спалохаўся паляшук помсты «чалавека з ворганаў» і рушыў у белы свет, на ваўчыныя сцежкі.

## Дзесяць ватовак з чужога пляча

За гады свайго вымушанага бадзяння па лясной глушэчы Іван Васільевіч знасіў мо дзесятак фуфаек з чужога пляча, парваў на лясных сцежках столькі ж пар кірзачоў, якія выпадкова знайшоў у лесе. А чырвонец, «скляпаны» ў 1946 годзе, быў уручаны невядомымі ўзброенымі людзьмі, пэўна дызерцірамі, Іван хаваў усе сорак гадоў, як талісман.

Па лясной сцежцы, трошкі прыцярушанай дробным снегампацярухай, няспешна кірую за «ўцекачом». Нарэшце дапялі «партызанскай» стаянкі былога франтавіка. Сцежка праходзіла па балоту, узбівалася на купіны, пераскоквала ванючую твань, што гадамі тут не прасыхае, хіба толькі ў маразы хаваецца пад ільдом.

Вось ён «утульны» куток. Закарэлы чыгунок, у якім некалькі брэжнеўскіх пяцігодак Іван супец варыў. У пагнутай алюміневай



місцы пёк на агні бульбу – смакалык. Не пытайцеся, як жа ўцякач бярлогу сваю ладаваў, каб збольшага паспаць. Павучыцеся, калі не ведаеце. Іван кідаў капу сена на высокія балотныя купіны, па краёх убіваў некалькі калкоў, акрываў іх тоўстай, што рубероід, поліэтыленавай накрыўкай, не спаць жа пад адкрытым небам у поўным на горкія нестпадзяванкі глухім, непрыветным лесе.

Прызнаюся, ніякавата было бачыць белтаўскі фотаздымак у цэнтральнай прэсе. Іван Бушыла, усунуўшы ногі ў поліэтыленава-сенны мяшок, чытаў «Аргументы и факты». Няйначай, фотарэпарцёр прыхапіў з сабой чытанку, падсунуў яе палескаму рабінзону для фотаэкзотыкі. Пад здымкам бегла бадзёрая тэкстоўка, з якой вынікала, што лепшае хобі Івана Бушылы ў лясной маркоце – чытанне газет. Адкуль жа браў Бушыла прэсу. Хіба скідвалі з самалёта альбо пляменнік Павел прыносіў свежае чытво дзядзьку, хаваючыся на глухіх, толькі яму вядомых сцежках, як некалі юны партызан-герой Марат Казей.

Чытаць любіў, а вось пісаць развучыўся. Яго незразумелыя крэмзы – касыя літары захаваліся ў маім нататніку – яскравае сведчанне гэтаму.

Я сеў на самаробны зэдлік побач з героем крыху воддаль ад Івана Васільевіча і ціха спытаў:.

– Рука ў Вас моцная, сялянская, і ваш твар спакойны, зусім не разгублены. Вачэй ад сораму не хаваеце, хутка звыкліся з тым, што ў Бастыні шмат гавораць пра вас. Няўжо і праўда, падабаецца Івану Бушылу такая цікавасць тысячаў людзей да вашае асобы.

Ён глядзіць на мяне з непрыхаванай цікавасцю, спакойна адказвае:

– Канечне, вельмі тое прыемна. І цікава ўсё чытаць, што пра мяне пішуць у газетах, гавараць па радыё, – адказвае Іван Васільевіч, амаль не задумваючыся, хаця і з няпэўнай, але дзіўнай бадзёрасцю.

Не адрываю позірка ад гнілога пянька, на якім ён сядзеў нудотнымі вечарамі і прагна глядзеў на кастрышча. А пасля сугрэву каля кастра ён забіраўся ў гэты шалашбудан. Як тое было. Я скінуў світку і забраўся ўнутро. Халодная няўтульная магіла, у якой паляжыш гадзіну--другую, а на вуліцы добры мароз, – акалееш, не дацягнеш да раніцы. І так кантавацца ўсю зіму. Зрабілася жудасна. Аднаму зімой, у завею, у халепу. Хіба ваўка гукай у субяседнікі.

– Іван Васільевіч, прабачце, не магу зразумець, таму і карціць запытацца. Запалілі вы цяпельца, пагрэліся, а ежу ў чым гатавалі. У гэтым закарэлым чыгунку. А чаму вы гэтыя няўтульныя балотныя купіны аблюбавалі для прыстанку. Гола, пуста. як тут можна было сядзець, маркоціцца, спаць, тут жа і блуднага сабаку не паселіш. А ў вас жа была сякера, пад рукой пілка, чаму б не збудаваць утульны, хай сабе не партызанскі, але прыдатны бліндаж, змайстраваць якую печачку для абагрэву, а трубу схаваць пад зямлю, каб дым у балота бег, дый злыдня не прывабіў.

Пытанняў было шмат, але адказу на іх так і не дачакаўся. Адказвае, як па-пісанаму, завучанымі фразамі, пэўна вычытанымі з газет, дзе расказвалі пра яго бадзянні па лесе.

Я шмат пахадзіў па зямлі, на ледніках спаў, у тайзе начаваў. І першае, што робіць любы вандроўнік, чакаючы ноч, грунтоўна ладуе прыстанак. А калі ж на зіму доўгую, халодную... Жартуеце, паважаны, калі свой поліэтыленавы шалашык фотаздымшчыкам са сталіцы паказваеце, дый закарэлы чыгунок для гатавання ежы. Нешта не тое.

Маўчыць рабінзон, нешта спрабуе сказаць, але асякаецца, падхопліваецца, крочыць да дрэва. Я за ім. Кранаю паштарскую сумку, што на відавоку, на сукавіне магутнай сасны. Даматканы мяшочак з пацвілым гарохам, зверху засохлы хлеб і «Правда» за лістапад 1989 года. Люстэрка ад легкавіка прымацавана да дрэва, - - як высветлілася, для галення, падабраў на гравейцы, ад тое людна дарогі нешта і перападала Івану Бушылу.

– Якія вы песні спявалі, – наіўна пытаюся ў яго, хаця і ведаю, што яму было не да спеваў..

– Ды не спяваў, – і глядзіць на мяне недаўменна, – якія спевы ў лесе, не дурны ж я, каб спяваць.

І, праўда, навошта спяваць у лесе, калі на душы горка, адзінока, а наўкола няўтульна, аніводнай роднай душы.

## Запаветная мара Івана Бушылы

Я надакучыў яму роспытамі, але ён не крыўдзіцца, ахвотна працягвае гаворку, адказвае на розныя пытанні.

– А ці не хацелася вам зрабіць нешта асаблівае, каб для душы суцешна, спакой прыходзіць ад утомнае працы. Завесці пчол, бо добра, калі мёд свой, дый занятак у ахвоту, па ўсім лесе вашы борці – любата. Я б на вашым месцы за лета падгадаваў ладнага вепручка, дый яшчэ курчатак вясёлую чародку, свой агародчык ускапаў і цешыўся б.

Гэта я хутчэй імправізую і гавару, каб неяк вывесці яго з раўнавагі, няхай запярэчыць мне, як жа яго сялянская душа да працы не гарнулася, няўжо не абрыдла бадзяцца па лесе без справы..

– Не, анічога не хацелася, – шчыра адказвае ён, – брындаў, хаваўся, азіраючыся на кожны куст. Прылягу на траву, як у яму праваліося, сон трывожны агарне, матка мне прысніцца, падхаплюся і прэч адсюль, маці сніцца на трывогу.

Дарэмна я пытаўся пра гэта, бо добра бачыў ягоны шалаш для зімоўкі, закарэлы посуд. Нават сіроцкага зэдліка за столькі гадоў бадзяння не змайстраваў, сядзеў на трухлявым пні, а то і на голай купіне. Куды лепей да дрэва прытуліцца, усё адно жытка не для радасці.. Дзень пражыў і добра, а заўтра як Бог дасць.

– А ваша запаветная мара? – пытаюся. – Птушка і тая імкнецца да нябёсаў, а чалавеку шмат чаго хочацца, дзе б ён не кантаваўся.

А ён усё тым жа, роўным голасам:

– Выкурыць самагортку да апеку пальцаў, а пасля ўкінуць чарачку перад вячэрай. Хацелася бульбы поўную патэльню са скваркамі, дый з вясёлай яечняй.

Пара ўжо пакінуць у спакоі Івана Васільевіча, але нешта трымае. Адчуваю, нешта не тое, дзе ж тая праўда хаваецца. Каб ведаць.

– Не сорамна было вам прасіць хлеба ў бабуль па хутарах, вы б маглі зарабляць на хлябец, нарыхтаваўшы штолета вазоў колькі сена. У лесе ж і дроў процьма, збірай да стомы ягады, грыбы, лес – багацей, а вы ж у ім – пан і гаспадар.

– Не, не сорамна, – адказвае, – хацеў есці, ішоў да людзей, да жытла, калі сцямнее, грукаў у акенца, прасіў, давалі. А ў жніўні пасля калгаснае камбайнавае жатвы каласкі ў полі збіраў, сам і зярняты малоў, спрабаваў праснака спячы...

Так і жыў чалавек сорак два гады, у кішэні адзіны сталінскі чырвонец маючы. Дужа радаваўся падоранай, як жабраку, паношанай ватоўцы, стаптаным ботам, залатанай кашулі, картовым нагавіцам, дый прынесенай пляменнікам торбачцы з сушаніцамі, капшуку з табаком.

Загнала ў лес сталіншчына, а вывела адтуль ужо «вольнага» гарбачоўская перабудова. Як проста і як жахліва. А мне не дае спакою адна думка. Пад час шматлікіх вандровак па Сібіры, Урале, Далёкім Усходзе, па Камчатцы я сустракаў нямала валацуг-«бічоў», да якіх прыбіліся і былыя дыпламаваныя інжынеры, адвакаты. У іх хаўрусе дужа знакаміты вучоны, дацэнт Маскоўскага універсітэта, золатамедальны майстар спорту, былы дырэктар буйнога завода, палкоўнік у адстаўцы, баявы ваенны лётчык – герой Савецкага Саюза. А часопіс «Огонёк» нагадаў і пра валацугу, які грэўся каля кастрышчаў у сваёй роднай, хаця і даношанай да дзірак, генеральскай форме.

У тым жа 1990 годзе на развітанне з ім я зрабіў здымак. На ім усё тое, што засталося ў Івана Бушылы. Без гаспадарчае рукі згібеў бацькоўскі дамок. У ім памерлі яго маці, бацька, не вярнуліся сюды яго родныя браты. Ні кала, ні двара. У ботах з чужое нагі, ватоўцы з чужога пляча, але затое з навюткім савецкім пашпартам – краіны, якая ўжо здыхала, а да поўнага скону ёй засталося паўгода.

На працягу дванаццаці гадоў мне давядзецца вяртацца ў ціхмяную вёску, што туліцца да шасейкі ад Лунінца ў «вялікі» свет. Так захапіла мяне гэтая таямнічая, загадкавая 42-гадовая лясная няволя Івана Бушылы. Але пра гэта новыя старонкі.

Працяг будзе

 

# II сусветная клікала на бой




Вайна цягнулася шэсць гадоў, і калі адшукваць яе вытокі, дык яны будуць у тым, што два ўладарныя псіхапаты вырашылі, што трэба змяніць еўрапейскія межы на свой густ. Гэтага жадання хапіла, каб адправіць на той свет болей за пяцьдзесят мільёнаў чалавек і каля дзевяноста скалечыць. У верасні 1939-га Гітлер пачаў вайну з Польшчай, услед Сталін захапіў прыбалтыйскія краіны, потым была гэтак званая фінская кампанія, у выніку якой СССР адарваў намалы абшар ад Фінляндыі, а неўзабаве Гітлер вырашыў пажырыць жыццёвую прастору для немцаў на ўсходзе. Страты людзей і разбурэнні, якія зведаў і наш народ, і іншыя народы ў Вялікую Айчынную вайну, адчуваюцца па сённяшні дзень. Адзін з запальшчыкаў Другой сусветнай атруціўся і яго спаліла ўласная ахова ў варонцы ад бомбы. Другі памёр у адзіноце ў сваёй загараднай рэзідэнцыі, і ён спіць вечным сном каля Крамлёўскай сцяны. Дзень яго смерці быў шчаслівы для мільёнаў людзей, якіх гэты тыран гнаіў у канцлагерах. Вайна – жахлівая трагедыя. Гледзячы на тагачасныя плакаты, гэтай трагедыі не адчуеш.

# 1939. Верасень

Дамова аб ненападзе, падпісаная 23 жніўня 1939 года Молатавым і Рыбентропам, мела Дадатковы сакрэтны пратакол. У другім пункце пратакола адзначалася, што ў выпадку тэрытарыяльнай палітычнай перабудовы абласцей, якія ўваходзілі ў склад Польскай дзяржавы, мяжа паміж сферамі інтарэсаў СССР і Германіі будзе праходзіць па лініі рэк Нараў, Вісла і Сан. Гэта азначала, што ў сферу інтарэсаў СССР апроч Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны трапляла частка этнічнай Польшчы да Варшавы. Гітлер меркаваў, што Сталін пачне наступ на Польшчу адначасна з ім, 1 верасня, і Чырвоная Армія ўступіць у Варшаву, як на паўтараста гадоў раней уступілі палкі Суворава, і зноў паўторыцца крывавае «ўзяцце Прагі».

Але Сталін зацягваў сваё ўступленне ў вайну, аддаючы ролю галоўнага захопніка Гітлеру. Для ціску на Крэмль, каб ён пачаў займаць тэрыторыю «рускай сферы ўплыву», нямецкія войскі перайшлі акрэсленую сакрэтным пратаколам дэмаркацыйную лінію, апынуліся ў Брэсцкай крэпасці і сталі прасоўвацца далей. Вось у гэты момант Сталін выступіў з ініцыятывай канчатковай ліквідацыі Польшчы. Ён прапанаваў аддаць немцам польскія землі паміж Варшавай і Брэстам і Люблінскае ваяводства, якое ўжо немцы захапілі, а ўзамен патрабаваў Літву (якая, згодна з пратаколам, была «зонай інтарэсаў» Германіі). Фюрэр пагадзіўся.

### Вызваленчы паход

17 верасня пачаўся Вызваленчы паход Чырвонай Арміі, аргументаваны тым, што «неабходна прыйсці на дапамогу ўкраінцам і беларусам, якім пагражае Германія». 31 кастрычніка, праз паўтары месяцы вайны, Молатаў на сесіі Вярхоўнага Савета СССР зрабіў паведамленне аб выніках ваенных дзеянняў. Чырвоная Армія ўзяла трафеі: 900 артылерыйскіх гармат, 10 тысяч кулямётаў, 1 мільён снарадаў і 300 самалётаў. Страты Чырвонай Арміі склалі 734 чалавекі забітымі і 1.862 раненымі. Што датычыць польскіх стратаў, то яны склалі 270 тысяч чалавек, якія патрапілі ў савецкі палон, і 300 тысяч салдат узялі ў палон немцы.

Страты мірнага насельніцтва ў Заходняй Беларусі ў 1939 годзе ў нас не мелі спецыяльнага даследавання. Магчыма, дзе-небудзь у «органах» такая статыстыка ляжыць, але асобна яна не друкавалася. Колькі людзей загінула, колькі «паноў, кулакоў, капіталістаў» забілі самасудам сельскія і гарадскія рэвалюцыйныя актывісты, – невядома. Прыкладам, напрыканцы верасня быў забіты мотыльскай вясковай міліцыяй Раман Скірмунт, знаны дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі. Ягоных сваякоў, састарэлых уладальнікаў маёнтка Моладава, Генрыха і Марыю Скірмунтаў, расстралялі пры людзях ля сцяны палаца і закапалі ў бліжэйшым лесе. Некаторых саслалі ў Сібір ці змясцілі ў канцлагеры, напрыклад, Радзівілаў. Праз тыдзень пасля ўступлення Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у ваколіцах Скідзеля сяляне самасудам расправіліся з палякамі-асаднікамі, забіўшы 42 чалавекі. Накіраванне ў часы Пілсудскага асаднікаў (былых легіянераў) у Заходнюю Беларусь было амаль дакладным выкананнем даўняга плана генерал-губернатара Мураўёва, які душыў паўстанне ў 1863–1864 гадах. Толькі ён прапаноўваў асаджаць у Беларусі расійскіх ветэранаў і сялян. Натуральна, Польшча пасылала свае правераныя кадры. Асаднікаў у Беларусі было 4,5 тысячы. З сем`ямі ці не – незразумела, бо калі з сем`ямі, дык трэба названую лічбу памножыць на 4.

Апусцелыя панскія палацы і дамы пайшлі пад школы, бальніцы, сельсаветы, і іх было вялікае мноства. Але куды падзеліся іхныя «паны» і «панскія» жонкі, дзеткі, бацькі? Уратавацца ўцёкамі яны не маглі – няма куды было бегчы і граніца была «на замку». Адно з двух: ці забілі, ці саслалі... Колькі з іх зведалі расправу ад «рэвалюцыйнай рукі» народа, нікім не падлічана, а калі падлічана – дык засакрэчана.







### Уз`яднаная Беларусь

12–14 лістапада 1939 года на 3-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР адбылося афіцыйнае аб`яднанне Заходніх абласцей Беларусі, вызваленых ад польскага панавання, з савецкай Беларуссю. Дзень 14 лістапада не адзначаны ў календарах і памятаць аб ім у нас не вучаць, хоць гэта важны дзень нашай айчыннай гісторыі – з сакавіка 1921 па верасень 1939 года шмат сем`яў былі падзеленыя, а сітуацыя з дзяржаўнасцю была непараўнальна хужэй, чым у падзеленых Германіі ці Карэі. Заходняя Беларусь не мела нават культурнай аўтаноміі, не кажучы пра мясцовае самакіраванне ці свой урад. У перабудовачны час, напярэдадні развалу СССР, 11 студзеня 1990 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў указ «Аб абвяшчэнні 14 лістапада Днём аб`яднання Заходняй Беларусі з Беларускай ССР» (нарэшце праз паўстагоддзя ўлады прачнуліся, а раней і ў галаву ім не прыходзіла, што гэта святочны дзень). Але і пасля гэтага ўказа ніхто яго не святкаваў – ні мітынгаў, ні ўрачыстых сходаў, ні дэманстрацыяў, ні ўзнагарод удзельнікам аб`яднання. Вось такі галоўны беларускі святочны дзень – народ уз`яднаўся ў адной дзяржаве – і нідзе ніколі нічога ніякага.

Можа з прычыны такой прышчэпленай абыякавасці да гістарычнага лёсу беларусаў нашы спаланізаваныя «патрыёты сваёй радзімы» саромяцца казаць, што менавіта з пачаткам Другой сусветнай вайны – гэтай найвялікшай еўрапейскай трагедыі – злучана аднаўленне тэрыторыі Беларусі, што дзень жалобы для Польшчы стаў днём адраджэння нацыянальнай цэласнасці беларускага народа. Чамусьці ўсе такія сарамлівыя забываюць аб трагедыі 1921 года і аб тым, што тады Рада БНР прыняла заяву, у якой абвясціла, «што мір, які разрывае на часткі жывы арганізм Беларусі, ніколі не будзе прызнаны беларускім народам, і ён будзе змагацца да канца за сваю незалежнасць і непадзельнасць».

У Заходняй Беларусі, якую ленінскі ўрад бессаромна аддаў Польшчы ў 1921 годзе пасля прайгранай вайны, і якую Польшча гэтак жа цынічна ўхапіла, беларусам не засталося месца, бо, на думку палякаў, Рэч Паспалітая атрымала нібыта не Беларусь, а вярнула сабе «крэсы», ды і тое не ўсе. Калі б не трагічны 1939 год, гэтая частка Беларусі была б ужо спаланізаваная цалкам і неадваротна. І ніхто ніколі б не падумаў вяртаць яе ў склад беларускай дзяржавы. Толькі ў фантастычным рамане можна ўявіць паседжанне польскага сойму, на якім нехта прапануе адлучыць ад Польшчы беларускія ваяводствы, каб павялічыць Рэч Паспалітую беларускую. Колькі б новых рэйтанаў лягло крыжам ля дзвярэй палаты, усклікаючы «Тапчыце мяне! Не тапчыце Айчыну!» Да месца будзе сказаць, прапраўнук Рэйтана, саўладальнік Рэйтанаўскай Грушаўкі пад Ляхавічамі, Генрых Грабоўскі паўтарыў учынак свайго знакамітага продка ў часе паседжання польскага сойму 14 красавіка 1921 года, дзе выступіў з пратэстам супраць ратыфікацыі Рыжскага міру, які, на ягоны погляд, пакідаў пад Савецкай Расіяй (у складзе Беларускай ССР) вялізныя «польскія тэрыторыі» на ўсход ад мяжы (яна праходзіла ў 30 кіламетрах ад Мінска). Польшча па падзелу 1921 года атрымала палову Беларусі і тры мільёны насельніцтва. Усе яны ў хуткім часе зведалі актыўную паланізацыю.

### Роля Сталіна

Сталін, безумоўна, адзін з найвялікшых злачынцаў 20-га стагоддзя, але гэта не падстава лічыць, што Польшча мела правы на беларускія землі. Уз`яднанне правёў Сталін, і за гэта давялося заплаціць агромністую цану людзьмі сталінскаму рэжыму. Не вырашыў бы гэтага Сталін, уз`яднання не было б ніколі. Гэтага не дазволілі б еўрапейскія дзяржавы. Польшча не прызнавала Беларусь як дзяржаву. Прадстаўнікоў БССР не дапусцілі да абмеркавання ўмоваў Рыжскага міру. Польскі бок паводзіў сябе з такім жа цынізмам, з якім некалі паставілася да Польшчы імперская Расія. Таму акт 14 лістапада ў адносінах да беларускай дзяржавы , яго тэрыторыі, эканомікі, рэсурсаў, будучыні быў у вышэйшай ступені справядлівы, але для соцень тысяч фізічных асобаў аказаўся жыццёвай катастрофай, пра што сведчаць Курапаты, Катынь, сібірскія лагеры і магілы спецперасяленцаў.

Заходнія землі Беларусі пасля 17 верасня зведалі тыя ж злачынствы сталінізму, якія да гэтага дваццаць гадоў цярпела ўсходняя Беларусь. Аднак гэта не азначае, што ўз`яднанне Беларусі – злачынства супраць Польшчы. Увосень 1939 года ўз`ядналася тэрыторыя, якая вяла сваю дзяржаўнасць з XIII стагоддзя, з часоў Навагрудскай дзяржавы Міндоўга. Заходнія беларускія землі Польшча ніяк не мела права лічыць сваімі крэсамі і ва ўсялякім выпадку не павінна была беларускія землі апалячваць. Трагедыя 1939 года сталася працягам трагічнага падзелу Беларусі ў Рызе ў 1921 годзе.

Уз`яднанне павялічыла тэрыторыю Беларусі ўдвая – з 125,6 тысячы кв. кіламетраў да 225,6 тысячы кв. кіламетраў. Удвая ўзрасло насельніцтва: з 5 мільёнаў 562 тысяч да 10 мільёнаў 239 тысяч чалавек. Беларускі народ апынуўся ў складзе адной дзяржавы. Дзяржава была таталітарная, антычалавечая. Але дзяржаўны лад падлягае зменам, а дзяржаўныя межы ніколі не змяняліся без войнаў.

Беларусы не маглі і тым болей не могуць цяпер лічыць сваё ўз`яднанне ў 1939 годзе чацвёртым падзелам Польшчы, як трактавалі гэта польскія радыкалы. Ад Польшчы вярнулася Беларусі тое, што ёй належала адвеку і што надта несправядліва было захоплена з-за пагарды да нацыянальных інтарэсаў беларусаў, якую непрыхавана выказалі і палякі, і крамлёўскія дзякі ў 1921 годзе.

### Рэпрэсіі

Асабістыя трагедыі зведалі як палякі, так і беларусы, якія былі ўраджэнцамі Заходняй Беларусі і лічыліся грамадзянамі Польшчы. Савецкі НКУС вывозіў палонных у глыб Расіі. Падлічана, што ў 1939–1941 гадах з так званых «крэсаў усходніх» – Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і былой польскай часткі Летувы – было дэпартавана 2 мільёны чалавек – «фабрыканты і кулакі», партыйныя і культурныя дзеячы, «шкодныя сацыяльныя элементы», адным словам, усе, хто мог быць незадаволены сталінскім рэжымам ці апрыёрна ўспрымаўся ім як вораг. Напрыклад, пружанскі ксёндз Казімір Свёнтак (цяперашні кардынал у Беларусі) апынуўся за турэмнымі кратамі па стандартным абвінавачанні ў «шпіянажы».

Сотні тысяч людзей, гвалтам вывезеных з заходніх раёнаў Беларусі, выкарыстоўваліся на шахтах, будаўніцтве дарог, аэрадромаў, чыгункі, у канцлагерах на лесанарыхтоўках, мерзлі, галадалі, хварэлі і гінулі без ліку.

5 сакавіка 1940 года Сталін атрымаў ліст народнага камісара Берыі, які прапанаваў расстраляць польскіх афіцэраў, святароў, турэмных службоўцаў, памежнікаў, разведчыкаў і г.д. без усялякай судовай працэдуры. Апроч 14,7 тысячы ваеннапалонных прапанавалася расстраляць яшчэ 11 тысяч вязняў турмаў заходніх абласцей Беларусі і Украіны.

22 сакавіка Берыя падпісаў загад «Аб разгрузцы турмаў НКУС УССР і БССР». Згодна з ім, у Мінск належала перавесці 500 арыштаваных з Пінска, 1.500 – з Брэст-Літоўска, 500 – з Вілеяк, 450 – з Баранавічаў. Усю «працу» па разгрузцы турмаў прапанавалася здзейсніць за 10 дзён, гэта значыць да пачатку масавых расстрэлаў вязняў. У Мінску сляды гэтых 3 тысяч чалавек згубіліся назаўжды.

Адначасна рыхтавалася дэпартацыя сем`яў тых ваеннапалонных, каго прызначылі да смерці. Раёнам высялення выбралі Казахстан, тэрмін ссылкі ўстанавілі 10 гадоў.

На расстрэл адправілі, па папярэдніх дадзеных, 14.587 ваеннапалонных з трох спецлагераў, па даведках 1941–1943 гадоў – 15.131 чалавек. У 1959 годзе Хрушчову паведамілі пра 21.857 расстраляных ваеннапалонных і вязняў.

У красавіку 1940 года ў Катыні, Мядовым, Курапатах атрады НКУС пачалі масавыя расстрэлы палонных афіцэраў. Катыньскія ахвяры прывозілі з лагера ў Казельску. Стрэламі ў патыліцу былі пакладзены ў масавыя магілы ўвесь склад лагера – 4.500 чалавек. У Курапатах было расстраляна не меней 3 тысяч палонных. Зразумела, што гэтае злачынства дасюль не прызнанае – «страчаны дакументы».

**Альбіна ГРЫНКЕВІЧ**

# Беларуская палітыка – колькі крокаў да сьмеху?

Паводле аднаго вядомага грамадзкага дзеяча, на сёньняшні дзень палітычны пэрформанс у Беларусі – гэта самы моцны ўнёсак у сьпіс навінак, якія зьявіліся на постсавецкай прасторы. За апошнія дзесяць гадоў жанр палітычнага сьмеху, іроніі ды сарказму набыў адметны нацыянальны стыль. Журналісты, анархісты, маладафронтаўцы, «зубры», мастакі й палітыкі правялі цэлую плойму акцыяў, пэрформансаў і хэпэнінгаў з адной мэтай – выказаць пратэст супраць існай улады. Наколькі плённая такая дзейнасьць? І чаму ў апошнія гады палітычнага сьмеху амаль не чуваць?

Гэтым разам пэрфоманс адбыўся ў электрычцы «Менск – Маладэчна».

«Вялікі дзякуй усім, хто сабраўся на прэзэнтацыю часопісу «Партызан», – кажа адзін з арганізатараў прэзентацыі. – Трэці нумар пачынаецца праектам асэнсаваньня Менску як Гораду Сонца. Мяне завуць Артур Клінаў. Мы пачынаем нашую прэзэнтацыю тут, у вагоне, едзем да Зялёнага, у Зялёным высядаем на паляне й працягваем».




Артур Клінаў ладзіць прэзэнтацыю-пэрформанс з нагоды выхаду чарговага мастацкага альманаху «Партызан». Дакладней, пэрформанс амаль адразу ператвараецца ў хэпэнінг, бо да шоў далучаюцца выпадковыя сьведкі падзеі.

Чаму электрычка й лясная паляна абраныя для прэзэнтацыі? Ідэя нарадзілася спантанна, як адказ на адмову дзяржаўных культурніцкіх установаў дазволіць арэнду заляў. Пакуль электрычка набірае хуткасьць, колькі словаў пра пэрформанс, хэпэнінг і акцыю, альбо – на ангельскі манер – экшн.

***

Жанр пэрформансу (performance) зьявіўся ў 1960-х гадох у заходніх краінах, але каранямі сягае старажытнасьці, бо ён блізкі да тэатру: праз мінімальны сцэнар і неабходнасьць як мінімум аднаго актора-выканаўца. Зрэшты, пэрформанс можа ператварыцца ў хэпэнінг (happening) – пры ўмове, што да дзеі далучацца выпадковыя гледачы. І, нарэшце, акцыя (action) – гэта тэатралізаваная дзея, якая мае канкрэтную мэту. У Беларусі пару дзясяткаў мастакоў прафэсійна працуюць з пэрформансам, але толькі некаторыя маюць на мэце не адно творчае самавыяўленьне, але й дэманстрацыю грамадзянскай пазыцыі. У Беларусі жанр пэрфэрмансу паўстаў дзякуючы Людміле Русавай і Ігару Кашкурэвічу ў 1980-х гадох. Сёньня найбольш вядомыя творцы, што спалучаюць мастацтва з грамадзянскай пазыцыяй, – Артур Клінаў і Алесь Пушкін.

Імя Пушкіна грымнула ў 1989 годзе, калі ён выйшаў у цэнтар Менску з чырвона-зялёным БССР-аўскім сьцягам, перакрэсьленым чорным крыжом.

Алесь Пушкін быў першы, каго судзілі паводле крымінальнага артыкулу за пэрформанс. За вазок з гноем, які мастак перакуліў перад рэзыдэнцыяй прэзыдэнта ў 2001 годзе.

***

Каб зрабіць пэрформанс ці хэпэнінг, ня трэба быць прафэсійным мастаком, галоўнае быць актуальным.

«Гэта адно з самых эфэктыўных дзеяньняў, – кажа Мікалай Халезін, – накіраваных на супраціў уладам».

Мікалай Халезін – журналіст, сцэнарыст і актыўны стваральнік і ўдзельнік шэрагу грамадзкіх пэрформансаў. Адзін з самых вядомых – у 1997 годзе, калі журналісты пратэставалі супраць арышту сваіх калег Паўла Шарамета й Зьмітра Завадзкага. Тады журналісты апранулі на сябе турэмныя робы і пранесьлі ў руках імправізаваныя краты. А паэт і публіцыст Славамір Адамовіч на знак пратэсту супраць ціску на свабоду слова на вачох у публікі зашыў сабе рот.

«Яны не разьлічаныя на шырокі слой насельніцтва, – гаворыць Халезін. . Пэрформансы разьлічаныя на тую прагрэсіўную частку насельніцтва, якая пашырае інфармацыю».

У 1980-х гадох у Польшчы вялікі розгалас мела дзейнасьць руху пад назвай «Alternatywa Pomaranczowa» («Аранжавая альтэрнатыва»). Напрыклад, у часе кастрычніцкай дэманстрацыі зьяўляліся некалькі дзясяткаў людзей, апранутых ува ўсё чырвонае: яны скакалі, сьвісталі, дарылі прысутным чырвоныя балёнікі. Усе разумелі, што бачаць іронію й сарказм адносна камуністычнай ідэалёгіі, але міліцыя ня мела падставаў для арышту. Інфармацыя пра такі экшн пашыралася з вуснаў у вусны па ўсёй Польшчы за пару дзён.

***

Ідэйнымі пераемнікамі польскай «Аранжавай альтэрнатывы» ў сучаснай Беларусі сталі анархісты. У 1997 годзе ў Менску яны выйшлі на кастрычніцкую дэманстрацыю пад лёзунгам «Далоў самадзяржаўе». Сьледам быў шэраг бліскучых акцыяўпэрформансаў. Але апошнія гады пра анарха-шоў у Беларусі амаль не чуваць. Вось тлумачэньне аднаго з анархістаў, Паўлюка Канавальчыка, які сумняецца ў актуальнасьці перадачы інфармацыі з вуснаў у вусны: «Шмат хто кажа, маўляў, што ж вы, анархісты, ня робіце пэрформансаў, бо раней былі самыя актыўныя ў гэтым. Нястача ці неіснаваньне незалежнай прэсы зводзяць да нуля ўсе гэтыя акцыі, хэпэнінгі, пэрформансы. Бо людзі пра іх не даведваюцца. Трэба шукаць іншых формаў, іншых сродкаў узьдзеяньня на грамадзтва».

Паўлюк Канавальчык тлумачыць, што ва ўмовах савецкай Польшчы людзі жылі ў інфармацыйным вакууме, таму інфармацыя з вуснаў у вусны шырылася хутчэй, чым сёньня праз інтэрнэт. У 1990-х гадох у Беларусі не бракавала СМІ, якія маглі апавесьці пра альтэрнатыўныя акцыі. Сёньня ў краіне склалася парадаксальная сытуацыя, калі, з аднога боку, насельніцтва перанасычанае інфармацыяй праз беларускія дзяржаўныя й расейскія тэлеканалы, а з другога боку, незалежнай прэсы амаль няма.

«Пэрформанс – гэта тое, што адлюстравалася ў СМІ, лічыць Мікалай Халезін. – Калі не адлюстравалася, яго амаль не было».

Вось і адказ на пытаньне, чаму няма грамадзка-палітычных пэрформансаў – ідзе пошук новых формаў.

Тым часам электрычка Менск-Маладэчна набліжаецца да станцыі «Зялёнае». Тут ладзіцца пэрформанс-прэзэнтацыя выданьня Артура Клімава пад назвай «Партызан».

Пэрформанс-хэпэнінг-акцыя Артура Клінава ўдалася. Да ўдзельнікаў далучылася група моладзі, прысутныя ў вагоне пасажыры абавязкова раскажуць сваім знаёмым пра ўбачанае, а СМІ паведамілі ўжо пра незвычайную падзею – прэзэнтацыю ў электрычцы й на лясной паляне. «Партызан» апраўдаў сваю назву. Сысьці ў лес – няўжо гэта адзіны спосаб, каб зрабіць розгалас у краіне Беларусь?

**Севярын КВЯТКОЎСКІ**
**Радыё Свабода**

**Яўген ГУЧОК**

# Па вас я плачу

І пустата паверхі мае,
А па-над імі столь і дах,
А ўверх фундамент іх уздымае...
Нібы ў дзяржаваў ці дамах.

***

Ужо і могільнікі рушаць,
Ужо дабраліся й да іх...
О продкаў нашых косці й душы,
Няма пашаны вам у жывых.

Няма пашаны. А падстаў?!
Відаць, дзяды пра штось забылі...
Не адляжыцца той у магіле,
Хто родны край не адстаяў.

***

Учора бачыў я бамжыхі пахаванне;
Была яна на сёмым месяцы цяжарнай;
Яшчэ цяжэй мне стала, як магільнае
адхланне
Магільшчык засыпаў з імпэтным жарам.

А з плодам што? А што, як ён жывы?
Куды і як яму адтуль імкнуцца-выбірацца?
Тым больш, што заўтра час надыйдзе
веснавы,
І путы многія пачнуць ірвацца.
...
І вось у нас на свет на Боскі
Вылазяць з трунаў неданоскі,
І кожны з іх заўсёды рад
Уліцца ў гнілы электарат.

***

Я – адшчапенец, вырадак, ізгой
І ўсё таму, што застаюся сам сабой,
Што, сам на двух нагах,
З двухногімі зліваціа не жадаю
ў памкненнях дасягнуць зямнога раю...
Наскрозь я гэты рай з маленства бачу
І з немаўляцкіх год над ім нярэдка плачу.
Я – адшчапенец, вырадак, ізгой;
Дай, Бог, застацца і надалей мне сабой.

***

*С.С.*

Што Ордэн Скарыны
Табе не далі,
Не дзіва,
І бедаваць не трэба;
Ты Бога падзякуй,
Што ў цябе
Яны не забралі
Скарынку хлеба.

***

Ну а, можа, у гэтым сакрэт,
Што мітрапаліт Філарэт
За апостала Паўла,
Пастаўшага з Саўла,
Паўлічэнку прыняў
І апошняму паспрыяў
Ордэн князя Уладзіміра атрымаць...

А да гэтага варта дадаць,
Што не столькі МУСу на кіцель
Той ордэн,
Колькі удар праваслаўю
Пад дых і ў морду.

***

І смешна, і прыкра, і цяжка,
І едкі ў вочы лезе дым...
Сёння носяцца з Мікалашкам –
Рускім царом Мікалаем II.

А той Мікалашка праз войны
Бацьку асіраціў майго,
І я адпаведна міжвольна
Дзеда не бачыў свайго.

Мой бацька і я – не адзінкі,
Хто зведаў сірочы лёс...
Заўжды Мікалашкі вадзілі
Айчыну нашу да мора крыві і слёз.

***

Не па сабе, па нас я плачу;
Не за сябе, за нас малюся...
І каб жа мець агульную удачу,
Дык зноў жа на сябе і спадзяюся.

****

Мы калісьці ляжалі ад мора да мора
І таксама былі імперыяй,
А што зменіцца радасць на гора,
Ні сабе ды і іншым не верылі.

Бог Ісуса паслаў, але Ён – не для нас,
Не прыйшоўся нам і Скарына;
Дух зямлі ваяўнічай у часе згас...
І фінал наш – лёс блуднага сына.

І вось мусіць вяртацца той сын дамоў:
Дома – Бог, і Ісус, і Скарына...
Усё часцей і часцей, усё ізноў і ізноў
Бачу светлую ў снах Айчыну.

## Незалежнасць



# 1569. Слёзы Хадкевіча, ці Польскі падзел ВКЛ



Нашы аматары роднай гісторыі замілавана называюць XVI стагоддзе Залатым векам Беларусі. Маўляў, маем усе падставы для такіх узнёслых пачуццяў.

## Рамантызаваны краявід

На погляд прыхільнікаў Залатога веку, XVI стагоддзе заклала асновы беларускай нацыі, дало духоўную сілу, якая дазволіла нашаму народу, нягледзячы на шматлікія бедствы, што пераследавалі беларусаў далейшыя 400 гадоў, выйсці «на палітычную прастору».

Маўляў, XVI стагоддзе – гэта імклівы культурны пад'ём краіны. Скарына пачаў усходнеславянскае кнігадрукаванне. Беларускія ваяры на чале з Канстанцінам Астрожскім малой колькасцю разграмілі маскоўскія полчышчы пад Оршай. Беларуская княгіня Барбара з Радзівілаў стала польскай каралевай. У Вялікім княстве асветнік і дзяржаўны дзеяч Мікалай Радзівіл Чорны ачоліў Рэфармацыю. На Беларусі, як грыбы, раслі гарады і мястэчкі з магдэбургскім правам. У сталіцы краіны адчыняецца універсітэт. У грамадскім жыцці пачынаюць святкаваць ідэі Рэнесансу, узмацняецца ўвага да чалавека. І гэтак далей і да таго падобнае.

Аднак застаюцца без адказу простыя пытанні: чаму наш першадрукар Скарына пачуўся непатрэбным у Залаты век на радзіме і быў змушаны вярнуцца ў Прагу даглядаць каралеўскі сад? Ці чаму ў 1563 годзе ў ВКЛ у Брэсцкай друкарні, заснаванай Радзівілам (як любяць у нас горда тлумачыць – першай на тэрыторыі Беларусі, не зважаючы на скарынаўскую), выдаецца пераклад Бібліі на польскую мову, хоць ёсць выдатнае выданне Скарыны, і народ у Вялікім княстве папольску не гаворыць. Ці чаму Мікалай Радзівіл Руды выдае польскія кнігі ў 1572 годзе ў нясвіжскай «пячатні»? Яны, што мацавалі літвінскую самасвядомасць? Ці ў мэтах «дзяржаўнай незалежнасці» галоўным насельніцтвам мястэчак і гарадоў станавіліся габрэі, а беларусы ўсё больш жорстка браліся пад прыгон? У чым тады выявілася дасягненне нашай урбанізацыі – хіба ў тым, што з'явіліся камяніцы? Ці можа хто назваць хоць адзіны курс, прачытаны ў Віленскім універсітэце за 300 гадоў па-беларуску? Ці чаму «гістарычная» перамога на Крапівенскім полі пад Оршай не завяршылася вызваленнем Смаленска, аднятага рускімі ў той жа 1514 год? Ці тытулаванне вялікім князем літоўскім караля польскага (Стэфана Баторыя, Жыгімонта Вазы, Аўгуста Моцнага), які сядзеў Кракаве, Варшаве ці Дрэздэне, чымсьці істотна розніліся ад такога тытулавання ў наступным рускіх цароў? Ці кніжныя кастры, якімі езуіты пачалі асвятляць літвінскую сталіцу з 1581 года і Нясвіж пры Сіротку, сведчаць аб нашай апетай талерантнасці і ці не ў іхнім полымі гартавалася наша беларуская цярплівасць?

І ўжо ніяк не стасуецца з часамі Залатога веку варварскае пакаранне смерцю італьянскага пратэстанта Франкуса дэ Франка, здзейсненае ў Вільні ў 1611 годзе. Гэты чалавек у час працэсіі Божага цела звярнуўся са сходаў касцёла да яе ўдзельнікаў з прамовай, што не трэба пакланяцца госціі як богу. Праз некалькі тыдняў Франка быў асуджаны як ерэтык, і кат на Рынкавай плошчы нашай сталіцы вырваў яму язык, чацвертаваў цела і падвесіў на крук. Смерці для яго патрабавала польская каралева (і вялікая княгіня літоўская) Канстанцыя і каралеўскі духоўнік Пётр Скарга.

Кат з тапаром і Біблія на польскай мове – хутчэй сімвалы Пахавальнага чым Залатога веку. Магілу Вялікаму княству Літоўскаму, Рускаму Жамойцкаму адрыў уласнымі рукамі яго «народ» (у той час «народам» была шляхта), і пахаванне атрымала назву Люблінскай уніі.

## Зручны момант

У 1558 годзе маскоўскі цар Іван IV распачаў Лівонскую вайну за Балтыйскае ўзбярэжжа. Наступным годам Лівонія перайшла пад патранат Вялікага княства. Праз тры гады маскоўскія войскі захапілі ўсходнія ваяводствы Беларусі і Полацак. Пераможныя бітвы пад Улай, Невелем, Оршай, Чашнікамі стратэгічна сітуацыю не змянілі. Вялікае княства знядужыла ў вайне, і літвінская шляхта разлічвала на дапамогу Польшчы. На конным сойме пад Віцебскам у верасні 1562 года шляхта вылучыла патрабаванні да ўлады пачаць перамовы з Польшчай аб уніі для стварэння «агульнай абароны». На польскім сейме 1564 года кароль Жыгімонт Аўгуст, які не меў наступніка, адмовіўся ад спадчынных правоў на Вялікае княства і перадаў іх Польшчы.

Натуральна, польскія магнаты, ацэньваючы кан'юнктуру 1560-х гадоў, паспяшаліся скарыстацца настроямі літвінскага рыцарства, якія выявіліся на вайсковым сойме.

Сумесны сойм Вялікага княства і Кароны Польскай сабраўся ў студзені 1569 года ў Любліне.

## Дзень зняваrі

Палякі настойвалі на поўным уключэнні Вялікага княства Літоўскага ў склад Польшчы. Нават сама назва Літва выключалася з назвы дзяржавы, і манарх павінен быў мець адзіны тытул – «кароль Польшчы». Палякі даводзілі, што ў часы першай дынастычнай уніі паміж дзвюма дзяржавамі, прынятай у 1385 годзе, Літва была інкарпаравана ў Польскае каралеўства.

Літвіны, са свайго боку, прапанавалі федэрацыю Польшчы і Літвы. Агульнага кіраўніка гаспадарства павінен выбіраць агульны сойм на мяжы паміж дзвюма краінамі; у Кракаве манарха будуць каранаваць каралём Польшчы, а ў Вільні – вялікім князем Літоўскім.

Галоўнымі прамоўцамі ад літоўскай дэлегацыі былі віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Руды і Ян Геранім Хадкевіч. Пры сустрэчы польскіх і літоўскіх паслоў Хадкевіч сказаў: «А што датычыцца нашых вольнасцяў, дык мы роўныя з любым іншым народам, уключна і з вамі, панове палякі. Ніхто не можа весці нашы справы, апроч нас саміх, як гэта рабілі нашы продкі».

Літвінскія паны вырашылі байкатаваць далейшыя паседжанні і пачалі ад'язджаць дадому. І зрабілі памылку.

5 сакавіка Жыгімонт Аўгуст выдаў эдыкт аб «вяртанні» Польшчы Валыні і Падляшша і неадкладным уключэнні гэтых рэгіёнаў у склад Польшчы. Праз тры дні ён загадаў магнатам і паслам шляхты Валыні і Падляшша прыбыць на сойм і прысягнуць на вернасць Польшчы. На гэтыя землі былі ўведзены польскія войскі, фактычна адбылася анексія зямель Вялікага княства – паловы яго тэрыторыі. Захоп такой прасторы ў выпадку вайны патрабаваў бы жыцця некалькіх пакаленняў, сотні бітваў, знішчэння эканомікі і да т.п.

Беспрэцэдэнтная польская агрэсія выклікала абурэнне ў Вільні, асабліва сярод магнатэрыі, літвіны нават намерваліся распачаць вайну з Польшчай. На Падляшша і Валынь былі разасланы загады аб закліку на вайну. Але далей за лямант не пайшло – Княству, саслабеламу ў Лівонскай вайне, не заставалася нічога іншага, як вярнуць сваю дэлегацыю ў Люблін.

Страта Валыні і Падляшша стала для Вялікага княства ўдарам пад дых, які пазбавіў краіну значнай часткі ваенных і фінансавых рэсурсаў.

Але палякі патрабавалі «вяртання» Польшчы яшчэ двух рэгіёнаў – Кіева і Брацлава.

Стоячы перад соймам, Хадкевіч са слязамі на вачах прасіў аб вяртанні Літве незаконна забраных зямель. Але палякі нават слухаць не хацелі. Мікалай Радзівіл напісаў тады аб «пахаванні і знішчэнні назаўсёды ранней свабоднай і незалежнай дзяржавы, вядомай як Вялікае княства Літоўскае».

1 ліпеня 1569 года дамова аб уніі была падпісана, а праз тры дні зацверджана. І вось што самае дзіўнае: гэты гвалтоўны захоп зямель нашай дзяржавы, непрыхаваную анексію, нашы рамантычныя аматары роднай даўніны Першым падзелам Вялікага княства не называюць. Палымянае абурэнне аж кіпіць ў прамовах, артыкулах, вершах,

Працяг на стар.12

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Слёзы Хадкевіча, ці Польскі падзел ВКЛ

прозе, прысвечаных Падзелам Рэчы Паспалітай, праведзеным Расіяй, Аўстрыяй, Прусіяй, а гвалт, учынены «брацкім народам», які падарваў нашу дзяржаву, узгадваецца мімаходзь. Між тым, Люблінская унія – чорны дзень нашай гісторыі, яна ўваходзіць у спіс тых змрочных датаў, якія паставілі крыж на дзяржаўных дасягненнях Міндоўга, Гедыміна, Альгерда, Вітаўта.

Польшча лічыць трагедыяй тры падзелы – 1772, 1792, 1795 гадоў, а на лёс Вялікага княства Літоўскага прыйшлося чатыры – Першы падзел правялі ў 1569 годзе палякі.

### Каму смех, каму слёзы

Да 300-годдзя Люблінскай уніі Ян Мацейка напісаў вялізнае палатно, прысвечанае гэтай падзеі. Яно экспануецца ў Люблінскім замку, адраджаючы даўнюю ўрачыстасць палякаў і смутак прадстаўнікоў зламанай Літвы. На карціне ўсе літвіны пастаўлены на калені для клятвы, сярод палякаў, якія стаяць ці сядзяць у крэслах, яны ў ролі палонных – Мікалай Радзівіл Руды з мечам у правай руцэ і ахоплены адчаем Ян Хадкевіч. Твор Мацейкі ўвасобіў у вобразах дзень знікнення Вялікага княства. Вось яно стаіць на каленях і плача. Рэальна яго ўжо няма. Ужо гэта правінцыя Польшчы. Акт Люблінскай уніі ад 1 ліпеня 1569 года абвяшчаў Польскае каралеўства і ВКЛ «адзіным непадзельным целам», агульнай Рэччу Паспалітай, якая знітавала «ў адзін народ дзве краіны і два народы». Літва захавала за сабой некаторыя неістотныя рэшткі аўтаноміі – падабенства войска, адміністрацыю і асобныя законы, пасады для магнатэрыі. З назвы Вялікага княства знікла слова «Рускае», бо ўкраінскія землі пераправаліся ў польскія ваяводствы.

Вось так, для «агульнай абароны», беларуская шляхта («народ») пачала свой культурны застой і шлях у нябыт. Старое пакаленне сыходзіла з гэтага свету, маладое "асветленае", будавала Рэч Паспалітую Польскую, дантаптаючы ўласную дзяржаву.

### Статут ВКЛ 1588 года

Для прыхільнікаў тэзісу аб непадлегласці Вялікага княства Літоўскага Польшчы ў Залаты век неаспрэчна сведчыць пра гэта Статут 1588 года. Лічыцца, што ён уратаваў незалежнасць і дзяржаўнасць ВКЛ. У яго падрыхтоўцы ўдзельнічаў Леў Сапега, ён напісаны і выдадзены на беларускай мове, два стагоддзі быў самым дасканалым юрыдычным кодэксам Еўропы, і пасля захопу Беларусі Расійскай імперыяй яшчэ амаль 50 гадоў землі былога Княства жылі па Трэцім Статуце, а не па заканадаўстве Расіі. Аднак значэнне беларускай мовы на ўзроўні дзяржаўных інстытутаў ВКЛ пасля Люблінскай уніі відавочна перабольшана. Гадоў за дзесяць да Патопу, з якім злучаюць пераход шляхецкай масы Княства на карыстанне ў юрыдычнай практыцы і побыту польскай моваі, беларускія выдаўцы надрукавалі Статут 1588 года ў перакладзе на польскую мову. Не для палякаў жа, якім Статут забараняў займаць пасады і набываць землі.

Таму спасылкі на Статут гэтак жа правамерныя, як спасылкі на дасканаласць Сталінскай канстытуцыі. Яна была нашмат болей дэмакратычная, чым наша, што дзейнічае сёння. Але на паперы. Так і той Статут служыў інтарэсам магнатаў, а народ (гэта значыць шляхта, не гаворачы ўжо аб прыгнечаных сялянах) не быў абаронены законам, бо пасля уніі ўяўляў збор законаў правінцыйнага маштабу. Тыповы сюжэт з п'янтосамі і мордабоем, вельмі прыгожа прадстаўлены вершамі ў «Пане Тадэвушы», дае зразумелы ўзор панавання законнасці згодна з артыкуламі Статута.

Вартая ўвагі і яшчэ адна наша распаўсюджаная памылка. На майскія святы ў нас любяць прыгадваць Канстытуцыю 3 мая 1791 года. Маўляў, якая яна была прагрэсіўная і як было б добра жыць па ёй нашым продкам, каб Кацярына II не запратэставала, не арганізавала Таргавіцкую канфедэрацыю і не дамагіся адмены Канстытуцыі. Усё праўда, аднак мы чамусьці забываем, што гэтая канстытуцыя абвяшчала інкарпарацыю Вялікага княства ў склад Польшчы. І Трэці Статут перастаў бы дзейнічаць на паўстагоддзя раней, а Вялікае княства прысутнічала б у Рэчы Паспалітай Польскай у ваяводскім статусе. Але ў 1792 годзе пачаліся баявыя дзеянні, потым быў другі падзел, потым – паўстанне Касцюшкі, а потым сама Польшча з далучаным да яе Княствам страціла дзяржаўнасць і больш чым на стагоддзе была інкарпаравана ў тры розныя дзяржавы.

### Мова гаспадара – мова васала

Адным з горасных вынікаў аб'яднання «двух народаў» у 1569 годзе стала адмова ад роднай мовы беларускага «рыцарства» (таксама як і летувіскага) і пераход на польскую.

Дзе і якія сляды дзяржаўнасці пасля гэтага варта шукаць? Ці ў тым, што Вазы і Сасы на польскім троне тытулаваліся ў дадатак вялікімі князямі літоўскімі, або ў тым, што магнаты займалі ўплывовыя пасады для ўтрымання мясцовай улады і ўласнага абагачэння? Беларуская мова ў «федэратыўнай» Рэчы Паспалітай хутка і актыўна пачала выціскацца польскай мовай. Сама мясцовая магнатэрыя гэта і рабіла. У 1633 годзе ў Вільні выходзіць на польскай мове азбука для дзяцей. Уласнай ініцыятывай і за свае грошы выдадзеная. Беларускія выдаўцы ў 1639 годзе надрукавалі Статут 1588 года ў перакладзе на польскую мову. Заставалася яшчэ 60 гадоў да 1697 года, калі моўнае пытанне абмяркоўвалася на сойме.

Генеральная канфедэрацыя шляхты ВКЛ, у першую чаргу беларускай, у 1696 годзе прыняла пастанову, каб пісар земскага ваяводскага суду, дзе будуць праходзіць Галоўныя Трыбунальскія суды, запісваў пастановы папольску, а не «па-руску». Гэта, як нецяжка зразумець, скасоўвала юрыдычную сілу параграфа Літоўскага Статута, які аб'яўляў: «А пісар земскі павінен па-руску буквамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпіскі і пазовы пісаць, а не іншым языком і словамі». Такім вось чынам адно з важных дасягненняў Льва Сапегі было рашэннем шляхты адпраўлена ў архіў. Палякі забралі ў ВКЛ землі, але мову яны забраць не маглі, самі мы здрадзілі. Вось такая памяць на 435-я ўгодкі уніі.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ**




Польшча (цёмная) і Вялікае княства (светлае) за тры месяцы да Люблінскай уніі




Польшча (цёмная) і Вялікае княства (светлае) праз тры месяцы пасля Люблінскай уніі

# *Фэст у нашай першай сталіцы*



Крыху пра гісторыю фэстаў сярэднявечнай культуры ў Навагрудку, старажытным горадзе, дзе адбылася каранацыя князя Міндоўга, адкуль пачалася гісторыя Вялікага княства Літоўскага, які ад 1240 года быў першай сталіцай ВКЛ.

Першы буйны фэст сярэднявечнай культуры «Навагрудак-2000» адбыўся 24–25 чэрвеня 2000 года. На ім было каля 400 удзельнікаў з 6 краін. Паглядзець незвычайнае відовішча сабралася каля 20.000 гледачоў.

29–30 чэрвеня 2002 на другі фэст сярэднявечнай культуры «Навагрудскі замак» з'ехалася каля 50.000 гледачоў. Было недзе 900 удзельнікаў з 8 краін.

І вось 14–15 жніўня 2004 года адбыўся трэці фэст сярэднявечнай культуры «Навагрудскі замак». На фэст прыехала больш за 50 аматарскіх рыцарскіх клубаў, а таксама музыкі з Беларусі, Украіны, Польшчы і Расіі. Праўда, сёлета трохі не пашанцавала з надвор'ем, з-за дажджу прыйшлося ўносіць карэктывы ў праграму.

Гуляючы па Навагрудку, міжволі акунаешся ў сівую даўніну і разумееш веліч гісторыі. Тут усё напамінае пра падзеі мінуўшчыны. У Фарным касцёле, які стаіць з 1395 года, браў шлюб Ягайла з Соф'яй Гальшанскай, у ім хрысцілі Адама Міцкевіча. У горадзе захаваліся сярэднявечная планіроўка і забудова, а Замкавая гара са старажытнымі рэшткамі і замкавыя валы ствараюць натуральны амфітэатр.

Праграма трэцяга фэсту была сканцэнтравана на чатырох пляцоўках.

Канцэртная пляцоўка размясцілася на цэнтральнай гарадской плошчы. Два дні тут гучала музыка гуртоў «Бурдон» (Украіна), «Drolls», «Musicum Radicum» (Расія), «Brevis» (Беларусь). Адна з самых цікавых канцэртных падзей на фэсце – гэта прэм'ерная прэзентацыя нашым вядомым дуэтам «Аляксандра і Канстанцін» свайго новага дыску «Мой Галілей – лепшае».

Увечары на плошчы адбыўся начны бугурт. Гэта такое відовішча, калі рыцары ў сваіх строях дзеляцца на дзве каманды і ў цемры ідзе паміж імі бітва.

Устаноўлены на пляцоўцы вялікі відэаэкран дазволіў сёлета гледачам цалкам убачыць усё, што адбывалася на пляцоўцы як днём, так і ўначы.

Турнірна-паказальная пляцоўка заняла роў пад Замкавай гарой. На ёй гаспадарылі рыцары. Адбыліся турніры ў гонар вялікага князя Міндоўга – сярод вояроў IX-XI стагоддзяў і XIV–XV стагоддзяў. Дарэчы, як з рыцарамі, так і з іх дамамі, апранутымі ў сярэднявечныя строі, можна было сфатаграфавацца. Што з задавальненнем рабілі шматлікія госці. А танцавальны гурт «Bassdance» (Беларусь) запрасіў слухачоў да танцаў – беларускіх народных, еўрапейскіх народных і сярэднявечных.

Рамесная пляцоўка знаходзілася на Малым Замку, археалагічна пацверджаным рамесным цэнтры Навагрудка. На ёй былі прадстаўлены традыцыйныя рамёствы «ужывую» - працавалі кавалі, ганчары, майстры па пляценні з саломы і лазы, ткачы, майстар па вырабе паперы і іншыя майстры. А гледачы змаглі паўдзельнічаць у працы рамеснікаў і набыць іх вырабы.

На Замкавай гары працавала выставачная пляцоўка. Адметным месцам на пляцоўцы была скульптура з пяску. На гэты раз юныя скульптары пад кіраўніцтвам мастака Яўгена Лойкі вылялілі скульптуру Гражыны – гераіні аднайменнай паэмы Адама Міцкевіча.

Некаторыя з удзельнікаў падзяліліся сваімі ўражаннямі.

**Ірына Пуцішка, мастак з Баранавічаў.** Я працую ў тэхніцы «бацік», прывезла сюды выставу сваіх твораў. На фэсце ў Навагрудку я першы раз. Для мяне цікава атмасфера свята, знаёмства са старажытным беларускім горадам, нашай першай сталіцай. Яшчэ я люблю фатаграфаваць, таму маю магчымасць зрабіць цудоўныя фотаздымкі.

**Алесь Пушкін, мастак з мястэчка Бобр.** Прыехаў на гэты фэст, каб паказаць сваё беларускія татуіроўкі. Зараз наш малады люд узяў за моду маляваць на целе. То няхай робяць сваё, беларускае. Эскізы, якія прапаную ў сваім каталогу, маюць адносіны да гісторыі, да Навагрудка.

**Яраш Лойка, школьнік з Менску.** Самая галоўная наша справа – зляпіць скульптуру з пяску. Сёння мы робім Гражыну. Раней я рабіў Рагнеду ў Заслаўі і Міндоўга тут, у Навагрудку, два гады таму. Яшчэ хачу паглядзець, ці змянілася што ў Навагрудку ад майго папярэдняга прыезду.

Гарадскія ўлады Навагрудку добра падрыхтаваліся да наплыву такой вялікай колькасці гасцей: былі арганізаваны аўтамабільныя стаянкі, палатачны лагер ля вёскі Сялец, месцы для пражывання на час фэсту ў інтэрнатах горада і ў кватэрах гараджан.

**Леанарда МУХІНА**

# Карыкатурыст Янка Кашкель




Тав. ГАЛАДЗЕД

Імя мастака-карыкатурыста Янкі Кашкеля на сёння вядома нямногім, пераважна прафесійным мастацтвазнаўцам і гісторыкам. Гэта тлумачыцца тым, што ў гады нацысцкай акупацыі Беларусі ён працаваў у «Беларускай газэце». Да пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя аніхто нават не згадваў яго імя ў публікацыях.

Тым часам яго трапныя карыкатуры і сяброўскія шаржы ў многім не згубілі сваёй цікавасці і да сёння. Творчасць Янкі Кашкеля вывучае і разглядае ў сваёй кандыдацкай дысертацыі Людміла Налівайка. У 1995 годзе ў газеце «Голас радзімы» яна апублікавала некалькі сяброўскіх шаржаў Янкі Кашкеля (2, 16, 23, 30 сакавіка, 27 красавіка, 18 мая).

Сяброўскі шарж на Язэпа Лёсіка можна знайсці ў зборы твораў апошняга, што выйшаў у 2003 годзе.

Аднак паўнавартаснага вяртання Янкі Кашкеля яшчэ не адбылося. Толькі нядаўна пачалося высвятленне яго біяграфіі, пошук невядомых твораў. Большасць звестак у гэтым артыкуле публікуюцца ўпершыню.

Янка (Іван Мацвеевіч) Кашкель нарадзіўся ў 1902 годзе, найверагодней, у Менску. Яго бацька Мацвей Францавіч працаваў пры чыгунцы кур'ерам. Маці (імя невядомае) была хатняй гаспадыняй. У 1921 годзе бацькі вымушаныя былі з'ехаць у родную вёску Мацвея Кашкеля – Машніцу Менскай губерні (цяпер Дзяржынскі раён Менскай вобласці), сталі земляробамі, бо ўстанова, у якой той працаваў, была эвакуяваная. Лічыліся беднякамі, бо мелі толькі 1,87 дзесяціны зямлі, 1 галаву быдла, не мелі каня.

З 15 год Янка Кашкель стаў жыць самастойна, здабываў на пражыццё выпадковымі заробкамі. У 1918 годзе ён паступіў у механічны клас Менскай сярэдняй політэхнічнай вучэльні. На той момант ён быў скончыў І Менскую вышэйшую пачатковую вучэльню. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца прашэнне яго бацькі ў Менскую губернскую земскую ўправу аб прыняцці сына ў вучэльню. У 1920 годзе Янка Кашкель перавёўся з вучэльні ў толькі што створаны Менскі політэхнічны інстытут на механічны факультэт. Менавіта ў тыя гады Кашкель атрымаў навыкі ў чарчэнні, якія дазволілі яму ў далейшым атрымаць працу мастака ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве і газеце «Зьвязда».

Жыў Янка Кашкель на прыватнай кватэры па вул. Правіянцкай, 41-2. У 1924 годзе ён атрымаў больш-менш сталую працу ў народным камісарыяце гандлю, стаў членам прафсаюза саўгандслужачых.

Відаць па ўсім, поспехі Я. Кашкеля ў навучанні былі не надта вялікімі, бо ў 1925 годзе, правучыўшыся пяць год у сельскагаспадарчым інстытуце (у 1922 г. політэхнічны інстытут стаў сельскагаспадарчым), ён перавёўся на першы курс прыродазнаўчага аддзялення педфаку БДУ. Першы курс, калі верыць заліковай кніжцы, Кашкель скончыў паспяхова. На другім курсе ён затрымаўся на два гады і так яго і не скончыў (аб гэтым будзе ніжэй).

Не пазней за 1926 год Янка Кашкель пачаў супрацоўнічаць з дзяржаўным выдавецтвам Беларусі. Дакладна вядома, што ён аформіў вокладку кнігі А.Калыгінай «Правы работніц і сялянак у СССР». Высокімі мастацкімі вартасцямі гэты твор не вызначаецца – мастак зарабляў грошы.

У навагоднім нумары «Зьвязды» за 31 снежня 1927 года з'явіўся сяброўскі шарж на Якуба Коласа за подпісам «Я.К.». Так пачаўся самы яркі этап у жыцці Янкі Кашкеля як мастака. На працягу студзеня - жніўня і ў кастрычніку 1928 года ў «Зьвяздзе» былі надрукаваны 46 яго карыкатур, сяброўскіх шаржаў і малюнкаў.

Карыкатуры па тэматыцы выразна падзяляюцца на тры блокі: на сюжэты з мясцовага жыцця, з жыцця бліжэйшых краін (Польшча, Летува) і з жыцця краін Захаду. Сяброўскія шаржы падзяляюцца на два блокі: культурніцкіх дзеячаў і партыйных і савецкіх функцыянераў. Малюнкі былі прапагандысцкага характару («плакат у газеце»), часам з'яўляліся з нагоды святаў.

Магчыма, Янка Кашкель і надалей рабіў бы карыкатуры для «Зьвязды», але ў яго ўзніклі складанасці ва універсітэце, дакладней, канфлікт з ваенным кіраўніком БДУ Міхаілам Міхайлавічам Пятровым. Цягам трох год навучання ва універсітэце Кашкель ніводнага разу не наведаў заняткі па вайсковай падрыхтоўцы і не здаў ніводнага заліку па ёй. У 1928 годзе Кашкель быў прызваны да 2-месячнага летняга лагернага збору. Адказны рэдактар «Зьвязды» (імя пакуль не ўстаноўлена) узбудзіў хадайніцтва аб замене Кашкелю 2-месячнага збора 3-тыднёвымі выхадамі ў поле «па матывах яго вялікай нагрузкі да будучага «Тыдня абароны»». Ваенны кіраўнік БДУ Пятроў хадайніцтва адхіліў, а калі Кашкель не з'явіўся на лагзбор, прыклаў усе намаганні, каб той быў выключаны з універсітэта. Сапраўды, на паседжанні Праўлення БДУ 28 чэрвеня 1928 года Кашкель быў выключаны з універсітэта без права аднаўлення. У далейшым супраць Кашкеля была ўзбуджана крымінальная справа, і па арт. 81 п. «а» КК ён быў асуджаны Нарсудом 1-га ўчастка Менскай акругі на 25 рублёў штрафу.

У 1930 годзе, прайшоўшы вайсковую службу, Я.Кашкель «зьвярнуўся да Прыймовай Камісіі Пэдфаку БДзУ аб аднаўленьні ў ліку студэнтаў». Прыймовая камісія прапанавала яму паступаць у БДУ на агульных умовах. Тады Кашкель звярнуўся ў Апеляцыйную камісію НК асветы БССР. Апеляцыйная камісія адаслала дакументы ў БДУ, і 31 верасня прарэктар па студэнцкіх справах паведаміў Кашкелю, што пастанова Праўлення БДУ застаецца ў сіле. Болей Янка Кашкель намаганняў паступіць у БДУ, відаць, не прыкладаў.

У гістэрычнай абстаноўцы 1930-х гадоў немагчыма было друкаваць сяброўскія шаржы: высокапастаўлены адрасат мог няправільна зразумець шарж, і гэта пагражала б мастаку рэпрэсіямі; наадварот, сам шаржаваны мог быць рэпрэсаваны ў хуткім часе. З карыкатурамі справы былі не нашмат лепей. У «Зьвяздзе» зніклі карыкатуры нават з сюжэтамі з замежнага жыцця.

У 1939 годзе імя Янкі Кашкеля зноў з'яўляецца ў архіўных дакументах. У дакладной запісцы аб выніках правядзення першамайскіх святаў па Беларускай ССР ад 8 траўня наркам УС БССР Л.Цанава паведамляе першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку:

«30 апреля, ночью, был выпущен первомайский номер центральной газеты «Звезда», в котором был помещён монтаж из прошлогоднего номера газеты «Правда» в извращённом виде.

Предпринятыми мерами, по согласованию с ЦК КП(б)Б – первомайский номер газеты «Звезда» был конфискован, а 1 Мая он вышел с новым клише.

Выпускавший газету зам. редактора Офенгейм и художник Кашкель разрабатываются по линии 2 отдела УГБ НКВД БССР»

Пакуль не высветлена, чым скончылася гэтая гісторыя для Янкі Кашкеля. Верагодней за ўсё, ён здолеў пазбегнуць рэпрэсій, бо ў часы акупацыі Беларусі нацыстамі працаваў у «Беларускай газэце» (як ужо было напісана вышэй). Далейшы лёс Янкі Кашкеля пакуль невядомы.

**Уладзімір ВАЛОДЗІН**

***Аўтар выказвае вялікую падзяку Віталю Уладзіміравічу Скалабану за ідэю працы і прадастаўленыя матэрыялы.***














# 425 год Віленскаму універсітэту

17 верасня 1579 года пачаў сваю гісторыю Віленскі універсітэт. З прычыны юбілею ва універсітэце была адкрыта выстава, а ў касцёле святога Яна прайшла ўрачыстая цырымонія «Gratulamur».

Паказальна, што калі царскія ўлады зачынілі Віленскі універсітэт у сувязі з паўстаннем 1831 года, то рэктарскі скіпетр – сімвал аўтаномнасці універсітэцкай улады – быў вывезены ў Расію і апынуўся ў калекцыі Эрмітажа. Пасля Першай сусветнай вайны і абвяшчэння Літвой сваёй незалежнасці ўлады рэспублікі спрабавалі вярнуць рэктарскі скіпетр, аднак беспаспяхова.



Дэкан гістарычнага факультэта Віленскага універсітэта Зянонас Буткус сцвярджае, што «вярнуць скіпетр можна ў адпаведнасці з мірнай дамовай між Літвой і Савецкай Расіяй ад 12 ліпеня 1920 года, нягледзячы на зафіксаваную ў ім агаворку, што Расія аддае культурныя каштоўнасці іншаму боку толькі ў тым выпадку, калі гэта не наносіць шкоды самой Расіі».

Па словах Буткуса, у 1926 годзе ў Расіі была створана экспертная камісія, якая ўстанавіла, што скіпетр ўяўляе вялікую каштоўнасць і што гэта адзіны экспанат у калекцыі Эрмітажа, страта якога нанесла б шкоду навуковай каштоўнасці музея. Тое, што адсутнасць скіпетра наносіць шкоду Віленскаму універсітэту, пад увагу не бралася.

Аднак рэктарскі скіпетр – гэта агульная культурная спадчына ўсяго ВКЛ – Літвы, Беларусі, Украіны. Адзіная падстава захавання яго ў Эрмітажы – тая, што ён быў незаконна вывзены. Усё ж гэта не трафей.

# Адкат

У 1804 годзе Напалеон Банапарт скарыстаў дзіўны замах на сваё жыццё для таго, каб абвясціць сябе пажыццёвым імператарам Францыі.

У 1933 годзе Адольф Гітлер скарыстаў цёмную гісторыю з падпалам Рэйхстагу для устанаўлення аднапартыйнай дыктатуры НСДАП.

У 1934 годзе Іосіф Сталін скарыстаў загадкавае забойства Кірава для развязвання масавага тэрору і канчатковага ўстанаўлення рэжыму асабістай улады і культа асобы.

У 2004 годзе Уладзімір Пуцін скарыстаў гібель соцень закладнікаў у Беслане, якая здарылася ў выніку хаатычнага штурму, для спынення гістарычнага эксперымента па пабудове ў Расіі дэмакратыі.

Як ні круці, адказнасць за тое, што здарылася ў Беслане, у канечным выніку ляжыць на прэзідэнце Расіі. Ён – сам сілавік, Вярхоўны галоўнакамандуючы ўсімі, хто ў пагонах, правадыр, які стаў ім дзякуючы абяцанням «замачыць тэрарыстаў у сарціры». Але хто яшчэ гэтак здольны абярнуць свае правалы на сваю карысць?

Факты наступныя. За дзесяць гадоў вайны ў Чачні забіты да 75 тысяч чачэнцаў (гэтую лічбу называў нябожчык Ахмат Кадыраў) – у бальшыні мірныя жыхары, у тым ліку жанчыны і дзеці. Страты федэралаў – да 9 тысяч чалавек забітымі (у апошнія гады лічбы стратаў старанна скрываюць). Адносна ахвяраў тэрактаў за межамі Чачні (штодзённыя выбухі і ахвяры ўнутры Чачні праходзяць па асобным рахунку) – называецца лічба ў 2.000 чалавек (за прэзідэнцтва Пуціна), з якіх апошняя серыя тэрактаў унесла да 500 чалавек, і лічба працягвае расці.

Цяпер мёртвыя дзеці запушчаны ў абарот. Паведамлена, што нам аб`яўлена вайна. Аб`яўлены і надзвычайныя меры барацьбы з тэрорам. Высветлілася, што тэрарызм спыняць дзве галоўныя меры.

Першай стане забарона грамадзянам Расіі самім выбіраць сабе губернатараў. Цяпер Пуцін будзе рашаць, каму правіць, прыкладам, Тамбоўскай вобласцю, – калі, канечне, тамбоўскія дэпутаты пагадзяцца з яго кандыдатам. Наўрад ці, аднак, яны падвядуць прэзідэнта – ім жа таксама хочацца спыніць тэрарыстаў!

Другой мерай стане забарона грамадзянам выбіраць сабе дэпутатаў Думы па аднамандатных акругах. Наступная Дума будзе складацца толькі з партыйных дэпутатаў, старанна адабраных партыйным начальствам і начальствам партыйнага начальства.

Апроч таго, што гэтыя рашучыя меры, на думку прэзідэнта. павінны навесці жах на міжнародных тэрарыстаў і дапамагчы назаўсёды рассеяць іх банды (як Басаеву ўстаяць перад прызначанымі губернатарамі з чыста партыйнай Думай у дадатак!), яны яшчэ дапамогуць пазбавіцца ад крытыкаў і нытыкаў, якія ставяць пад сумнеў поспехі ўладаў у барацьбе з тэрарызмам. Ды і ўсе іншыя поспехі!

Нават дзіўна, што Бушу-малодшаму пасля 11 верасня не прыйшла ў галаву думка прапанаваць выбіраць кангрэсменаў па партыйных спісах, а губернатараў штатаў прызначаць з Вашынгтона. Дзе б ужо быў бен Ладэн з памагатымі! Замест гэтага амерыканскі прэзідэнт заняўся дробязямі – стварыў незалежную камісію па расследаванні тэрактаў, зволіў дырэктара ЦРУ, рэфармаваў спецслужбы і пры гэтым нават не паспрабаваў абмежаваць правы і свабоды амерыканцаў.

Наш рашучы прэзідэнт пайшоў куды далей і вырашыў падкарэктаваць Канстытуцыю. Артыкул першы Канстытуцыі акрэслівае Расію як дэмакратычную федэратыўную прававую дзяржаву з рэспубліканскай формай праўлення. Прэзідэнт дзюбануў адразу па ўсіх канстытуцыйных прынцыпах.

У дэмакратычнай дзяржаве ён пазбавіў усіх выбаршчыкаў права выбіраць сабе 89 ачольнікаў рэгіёнаў і 225 дэпутатаў Думы ад акругаў.



У прававой дзяржаве ён вырашыў напляваць на дзеючае рашэнне Канстытуцыйнага суда ад 18 студзеня 1996 года па праверцы статута Алтайскага краю, у якім напісана, што абранне губернатараў заканадаўчымі сходамі (што і прапануе Пуцін) «не адпавядае Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі і дзеючаму заканадаўству. Выбраны ў такім парадку кіраўнік адміністрацыі не можа лічыцца легітымным незалежным прадстаўніком выканаўчай улады, паколькі ні заканадаўчая, ні выканаўчая ўлады не маюць права вызначаць адна для адной яе прадстаўніка, у тым ліку ў федэральных органах». Юрыст, выпускнік юрфака ЛГУ, Пуцін напэўна ведае, што пастанова Канстытуцыйнага суда «з`яўляецца канчатковай і не падлягае абскарджанню». Аднак гэта Пуціна не засмучае.

З моманту свайго прыходу да ўлады ў 2000 годзе Уладзімір Пуцін паставіў сваёй мэтай (на словах гаворыцца адваротнае) паслядоўнае згортванне дэмакратыі ў нашай краіне. Спачатку былі задушаны і разгромлены дэмакратычныя практыкі і працэдуры. З Савета Федэрацыі выгналі губернатараў. Потым зачысцілі тэлебачанне. Цяпер на Першым канале і РТР заўсёды адзін пункт гледзішча - начальніцкі. Далей заняліся выбарамі – Руцкога з іх знялі за лішні метр у кватэры, а Скуратава – што забыў напісаць, што ён «прафесар». Пасадзіўшы ў турму Хадаркоўскага, патлумачылі бізнесу, што азначае лезці ў палітыку, напрыклад, фінансаваць апазіцыю.

Цяпер, калі ў краіне цалкам знішчаны ўмовы як для рэальнай палітычнай канкурэнцыі, так і для элементарнага ўдзелу людзей з перакананнямі ў палітыцы, Пуцін заняўся ліквідацыяй уласна дэмакратычных інстытутаў. Першай ахвярай сталі інстытуты выбарнасці губернатараў і дэпутатаў ад акругаў, дзе ўсё яшчэ захоўваліся невялікія элементы палітычнай свабоды.

За ўсю тысячагадовую гісторыю Расіі народ толькі чатыры разы быў дапушчаны да прамых выбараў кіраўніка дзяржавы. А губернатараў яму дазволілі выбіраць толькі ў 1996 годзе. Сёння крамка зачынена. Начальства вырашыла перадумаць.

Вось толькі пры чым тут Басаеў? І тым болей мёртвыя дзеці Беслана, імем якіх забіваюць расійскую дэмакратыю?

**Уладзімір РЫЖКОЎ,**
**дэпутат Дзярждумы,**
**Novayagazeta**

# *«Washington Post»: Буш павінен зьвярнуць увагу на Беларусь і Ўкраіну*

«Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш асудзіў нядаўнія крокі Пуціна да згортваньня дэмакратыі ў Расеі. Мы вітаем гэтую пазыцыю прэзыдэнта Буша, і маем параду ў працяг гэтай пазыцыі: спадар Буш мусіць таксама зьвярнуць увагу на Беларусь і Украіну, двух эўрапейскіх суседзяў Расеі, спадзяваньні насельніцтва якіх ідуць насуперак нэасавецкім праектам Пуціна.

Беларусь і Ўкраіна гэтай восеньню паўстануць перад выбарам паміж дэмакратыяй і вольным рынкам заходняга ўзору ці падпарадкаваньні эканамічнай сфэры Крамля і пуцінскай кіраванай дэмакратыяй. Беларусь, краіна з 10-ці мільённым насельніцтвам, ужо амаль зьнікла: прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка апярэдзіў Пуціна ва ўстанаўленьні фактычнага дыктату выбарчага працэсу, перасьледу апанэнтаў, кантролю над інфармацыяй, а наступным годам яго краіна, якая і без таго ўжо залежная ад расейскіх субсыдый, пераходзіць на расейскі рубель.

У той жа ж час беларуская дэмакратычная апазыцыя не здалася і знаходзіцца напярэдадні бою: да парлямэнцкіх выбараў Лукашэнка дадаў канстытуцыйны рэфэрэндум, які дазволіць яму заставацца пры ўладзе пасьля 2006 году, калі ягоны дванаццацігадовы тэрмін павінен скончыцца. Апазыцыя мае ня больш шанцаў на гэтых парлямэнцкіх выбарах, чым расейская апазыцыя на леташніх выбарах у Пуцінскую Думу. Аднак незалежныя апытаньні паказваюць, што бальшыня беларусаў супраць лукашэнкаўскай спробы ўзурпаваць уладу. Крэмль, натуральна, за гэта, таму што Лукашэнка, якога ня прымаюць на Захадзе, гарант таго, што Беларусь будзе і надалей здаваць свой сувэрэнітэт Пуціну.

Ва Ўкраіне стаўкі нашмат вышэйшыя, і змаганьне больш раўнаважнае. Аднак кантраляваныя дзяржавай сродкі масавай інфармацыі адкрыта падтрымліваюць афіцыйнага кандыдата, сёньняшняга прэм'ера Віктара Януковіча, паўсюдна практыкуюцца брудныя прыёмы супроць апазыцыі, і заходнія назіральнікі лічаць, што ёсьць усе падставы баяцца, што ўрад, пры падтрымцы Пуціна, скрадзе вынікі выбараў у апазыцыйнага Юшчанкі на карысьць Януковіча.

Параўнальна з Расеяй, сродкі, якія выдаткоўваюцца ЗША на Беларусь і Украіну мізэрна малыя.

Нягледзячы на гэта адміністрацыя Буша мае магчымасьці ўплыву. Яна можа паспрыяць стварэньню кантактных груп суседніх краін, як Швэцыя, Польшча, Славаччына, каб паспрыяць справе дэмакратыі; адміністрацыя можа супрацоўнічаць з Эўразьвязам, каб ціснуць на прысутнасьць міжнародных назіральнікаў і даць зразумець, што падробленыя выбары прынясуць аб'яднаны цьвёрды адпор. Нарэшце, спадар Буш можа сказаць наўпрост беларусам і украінцам, што ён падтрымлівае сапраўдную дэмакратыю для гэтых краінаў, і што ў гэтым пытаньні яго палітыка разыходзіцца з палітыкай Пуціна».

**Пераклала Алеся СЁМУХА,**
*Радыё Свабода*

# *1001 салдат*



Амерыканскі ўрад пацвердзіў, што ў Іраку ўжо забіты болей за тысячу амерыканцаў і страты працягваюць расці. Толькі з 3 верасня 2004 года ў сутычках з паўстанцамі загінулі болей дзесяці амерыкансуіх вайскоўцаў. У цэлым на амерыканцаў у Іраку штомесяц адбываецца да 700 нападаў. За паўтара гады, што прашлі з дня афіцыйнага спынення ваенных дзеянняў у гэтай краіне, раненні атрымалі каля 7 тысяч амерыканскіх салдат.

Па словах назіральнікаў, напады на салдат кааліцыі робяцца ўсё больш рашучымі і жорсікмі. Расце лік стратаў і сярод саміх іракцаў. За мінулы месяц загінулі сотні мірных жыхароў і супрацоўнікаў сілаў бяспекі. Пры гэтым, як паведамляе Пентагон, толькі ў жніўні сілам кааліцыі ўдалося знішчыць 2 тысячы іракскіх баевікоў, аднак гэта ніяк не зменшыла напругі.

# ТБМ. Урачыстая вечарына

**29 верасня ў 18-30 у Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5) адбудзецца вечарына беларускай бардаўскай песні, прымеркаваная да 15-годдзя заснавання Таварыства беларускай мовы. Удзел бяруць: Лера Сом, Кася Камоцкая, Эдуард Акулін, Алесь Камоцкі, Галіна і Барыс Вайханскія.**

**Уваход вольны**



# «Ћуgimont VAZA»: паміж «Каінам» і Авелем

Шмат гадоў беларускі гурт «Ћуgimont VAZA» выдаваў альбомы за альбомам, але ўбачыць яго на канцэртах можна было не часта. Таму гурт і атрымаў азначэнне-мянушку «віртуальны». Але ў гэтым годзе на фестывалях «Генералы айчыннага року» і «Басовішча» гурт «Ћуgimont VAZA» бадай што ўпершыню за апошнія гады прадстаў перед слухачамі ў «жывым» выглядзе. Таму адразу ўсе размовы пра «віртуальны» статус гурта былі спынены. Сам кіраўнік гурта «Ћуgimont VAZA» Сяргей «Скрыпа» Скрыпнічэнка тлумачыць сітуацыю так: «Мне не падабаецца, калі пра нас кажуць, што мы «віртуальны» гурт, бо ўвесь час мы працавалі: стваралі песні, запісвалі іх у студыі, выдавалі альбомы. Цяпер жа мы каля двух гадоў выступаем са сваімі кампазіцыямі перед слухачамі на канцэртах.» І вынікам працы ў студыі, што адбывалася ў апошнія гады, стаў новы альбом гурта «Ћуgimont VAZA» які названы біблейскім імем «Каін».




Тыя, хто сочыць за творчасцю гурта «Ћуgimont VAZA» добра ведае тое, што музыка Сяргея Скрыпнічэнкі і яго сяброў па гурце «Ћуgimont VAZA» заўсёды несла адбітак панк-року. Але апошнія працы гурта (пачынаючы з альбому «Камбінат») уносяць у стылявую палітру гурта новыя фарбы з арсеналу арт-року. Апошні ж альбом гурта «Каін» амаль цалкам можна аднесці да арт-року, пабудаванага з большага па сюітнай структуры. І пацверджаннем гэтаму з'яўляецца першы трэк альбому, па якім названы альбом – «Каін». У ім ёсць усе атрыбуты арт-рокавага твору – інтрадукцыя, «намаляваная» з гукаў прыроды, меладычнае разгортванне тэмы, «цяжкарокавая» эмацыянальня кульмінацыя і філасофскі эпілог. Твор насычаны «касмічнымі» тэмбрамі клавішных інструментаў, разнастайнымі гітарнымі эфектамі і спецыфічным гучаннем гітарнага працэсара. Тэкст твора, працягласць якога каля 11 хвілін, вельмі эмацыянальна насычаны: музыкант быццам вядзе свой асабісты дыярыюш, спрабуе пафіласофску асэнсаваць прыроду чалавечай здрады, якая з біблейскіх часоў вяла людзей да забойства. Толькі цяпер тая здрада вядзе людзей да варажнечы і забойстваў цэлых народаў...

Дзённікавыя рысы мае і іншы твор альбому – кампазіцыя «Самота». Яе аранжыроўка пабудавана па прынцыпе кантрасту: магутны гітарны запеў змяняецца менш напружаным, нават сумным прыпевам, выкананым музыкамі акапэльна. Мэта кампазіцыі – стварыць пераканаўчы музычны вобраз адзіноты – пачуцця, якое перажывае кожны чалавек, нават з'яўляючыся часткай грамадства.

Кампазіцыя «Easy Rider» – адна з яркіх рытмічных кампазіцый альбому «Каін». Яе тэма – пераадоленне жадання змяніць «эміграцыю ўнутраную» («Самота») на эміграцыю сапраўдную ды з'ехаць у «...край, дзе жыццё быццам рай». Па музычнай стылістыцы гэты твор падобны на тое, як зараз гурт гучыць на канцэртах: дамінуючы стыль гранжу ў аранжыроўках падмацоўваецца арт-рокавымі элементамі, вельмі прыгожымі і арганічнымі гітарнымі сола.

Жудасныя сны чалавека, які адчувае сябе не так як іншыя, агучаны ў кампазіцыі «Лякарня» – бадай, самай дэпрэсіўнай на ўсім альбоме. Адзначым і тое, «Лякарня» і самая кароткая кампазіцыя альбому – каля 8 хвілін.

Сатырычная частка альбому прадстаўлена кампазіцыяй «Porna», у якой няма нічога парнаграфічнага, акрамя згадак архетыпаў «саўковага» менталітэту, якія культывуюцца ў краіне з палітычных мэтаў. Гэтыя адметнасці беларускай рэчаіснасці – «Дачы, лецішчы, гароды... Сэнс жыцця вядомы ўсім. Хмары шэрага смуроду дыхаць не дае зусім» – і цяпер з'яўляюцца для музыкі сінонімам порна: «Атачае здолу, атачае згары усіх нас порна, старое порна, добрае порна, светлае порна...» Як тут не ўспомніць дзяржаўны тэзіс пра «харчовую бяспеку краіны»?

Добрай традыцыяй для беларускіх рок-музыкаў стала іх жаданне зрабіць свой унёсак у захаванне беларускага фальклору. На альбоме «Каін» гурта «Ћуgimont VAZA» ёсць такая кампазіцыя – апрацоўка беларускай народнай песні «Калядная». Тут вельмі добрую дапамогу ў яе выкананні Сяргею Скрыпнічэнку аказвае вакалістка гурта Маша «Яр» Лагодзіч. Іх дуэт – гэта сапраўднае ўпрыгожванне кампазіцыі. Зробленая яна не традыцыйна, а ў «цяжкарокавым» ключы, з працяглымі гітарнымі сола. Тое, што «Калядная» завяршае альбом «Каін», здаецца невыпадковым – музыкі гурта «Ћуgimont VAZA» гэтым даводзяць тое, што альтэрнатыва сённяшняму ірацыянальнаму існаванню існуе. У чым яна, і адказвае альбом гурта «Ћуgimont VAZA» «Каін». Прынамсі, так падаецца пасля першага праслухоўвання гэтай музычнай сюіты.

Хочацца адзначыць вельмі густоўнае афармленне альбома гурта, на якім яго ўдзельнікі прадстаўлены ў выглядзе Пінокіо, П`еро, Арлекіна і Каламбіны (аўтар касцюмаў Ілона Ігруша). Аўтар жа агульнай канцэпцыі афармлення – лідэр гурта «Ћуgimont VAZA» Сяргей Скрыпнічэнка, а таксама аўтар здымкаў Юлія Галавіна.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# «Родныя мясціны» ВІА «Харлі». Дзе яны?

Апошні перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі засведчыў, што толькі дзевяць працэнтаў рускіх па нацыянальнасці, якія пражываюць у нашай краіне, лічаць беларускую мову роднай і толькі чатыры працэнты ўсіх рускіх размаўляюць пабеларуску. А дзе ж сучасныя рускія інтэлігенты, кшталту навукоўцаў Шчакаціхіна ды Байкова, што на пачатку XX стагоддзя зрабілі неацэнны ўнёсак у скарбонку беларускай нацыянальнай культуры? – запытаецеся вы. Размова ж ідзе пра грамадзян Рэспублікі Беларусь і яе дзяржаўную мову!

Адказ на гэтае пытанне ляжыць у плоскасці адносін да роднай мовы ўсё ж саміх беларусаў. Тым больш, што многія рускія па паходжанні людзі і ў наш час выпрабаванняў білінгвізмам робяць нямала для нацыянальнай культуры ў розных рэчышчах. Напрыклад, той жа кіраўнік вакальна-інструментальнага ансамбля «Харлі» Яўген Чалышаў нарадзіўся далёка за межамі Беларусі, але за некалькі год асвоіў беларускую мову да такой ступені, што сам пачаў на ёй ствараць цікавыя, у нечым нават арыгінальныя кампазіцыі па-беларуску і выконваць іх на канцэртах. Аб гэтым сведчыць і толькі што выдадзены кампаніяй «Бусел-Рэкардс» сольны дыск ВІА «Харлі» «Родныя мясціны».

Многія прыхільнікі беларускамоўнай папулярнай і рок-музыкі сустрэлі гэты дыск з прахалодай: занадта шмат русізмаў («Свадзебка», «утаміўся», «жарка», «неспяша» і г.д.), занадта шмат музычных паўтораў. Але русізмы ў тэкстах – не «сцебна-трасянковыя», як у «Ляпісаў», а ад недастатковай інтэграцыі ўдзельнікаў ВІА «Харлі» ў нацыянальны моўны дыскурс. А для гэтага патрэбен час. Таму, згадзіцеся, можна толькі вітаць такія намаганні – ствараць тэксты па-беларуску, спяваць і запісваць беларускамоўныя песні. Тым больш, што Яўген Чалышаў шчыра прызнаецца ў любові да беларускай мовы: «Беларускую мову я лічу вельмі прыгожай, пявучай, меладычнай, ствараць песні на якой – адно задавальненне!» .

Стылістычнае самавызначэнне ВІА – вядомае з савецкіх часоў як «вакальна-інструментальны ансамбль» – мусіць нас адасласць да рэтра-гучання такога гранда беларускай папулярнай музыкі мінулага, як ансамбль «Песняры». Таму і ўзнікаюць настальгічныя алюзіі, навеяныя творчасцю гэтага класічнага ВІА... На дыску «Родныя мясціны» гэтае імкненне вельмі заўважнае, але сучасныя тэхнічныя сродкі, якімі карыстаюцца музыкі, надаюць гук ,больш падобны на «мяккі» варыянт фолк-рока з элементамі world-music, джазавай імправізацыі. З «Песнярамі» і «Сябрамі» ўдзельнікаў «Харлі» родняць складаныя вакальныя партыі Яўгена Чалышава – вучня вядомага «песняра» Валерыя Дайнекі.

Сярод «раскручаных» кампазіцый ВІА «Харлі» слухачы дыска адзначаць рытмічныя песні «Усю ноч мы танцавалі», якая знаходзіцца ў ратацыі многіх FM-станцый, а таксама «Танцы на Палянцы», на якую створаны відэа-кліп. На запісу вылучаецца віртуозная імправізацыйная ігра скрыпача Карэна Карапецяна.

З фолк-рокавых крыніц – песня ВІА «Харлі» «Ехалі на коніку» (тэкст Р.Арлова). Тут маторны рытм песні імітуе доўгую дарогу, а голас Яўгена Чалышава, не пад уплывам лідэра «Этна Трыо Тройца» Івана Кірчука, скіраваны на тое, каб падкрэсліць фальклёрныя крыніцы гэтай кампазіцыі. Да безумоўных удач на дыску трэба аднесці песню «Купалінячка». У ёй ёсць усё неабходнае для твораў такога кшталту – лірызм, плаўнасць мелодыі і арыентацыя на лепшыя ўзоры купальскай тэматыкі беларускага фальклору. Таксама трэба адзначыць вытанчанасць мелодыі новай «Купалінячкі».

Адзначым таксама складаныя і разнастайныя аранжыроўкі песні «Снежань» і галоўнай песні альбому «Родныя мясціны». Тут трэба вылучыць далікатную ігру ўдзельнікаў ВІА – гітарыста Андрэя Ускова, басіста Аляксея Зайцава, бубнача Міхаіла Пендо, клавішніка Канстанціна Гарачага, а таксама зноў жа Яўгена Чалышава, які выступіў на запісу не толькі як вакаліст, але і як перкусіяніст.

У цэлым жа дыск пакідае ўражанне не поўнай задаволенасці: мяккае гучанне дазваляе слухаць дыск без «напругі», хоць часцяком і ўзнікае жаданне, каб музыкі ўключылі самую вялікую хуткасць: «урэзалі» па гітарах нешта рок-н-рольнае, задалі хард-рокавага імпэту. З-за адсутнасці на запісу нават намёку на папулярны сёння драйв і «кач», думаю, многія слухачы будуць наракаць на «халаднаватасць» музыкі «Харлі»... Ёсць на дыску і своеасаблівая «незразумелка», якая нічога недадае да творчасці ВІА «Харлі», а толькі размывае канцэпцыю дыска – гэта сумесны з папсовай «зоркай» Аняй Багданавай бонус-трэк «Навагодняя ноч». Як і тое, што сам дыск афармлены на рускай мове. Прынцыповасць т не пашкодзіла б!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**



# Вас захапілі тэрарысты. Як выжыць?

Непрыемная праўда: кожны ў самы нечаканы момант можа аказацца закладнікам. Варта быць псіхалагічна падрыхтаваным да такой магчымасці.



Пакуль што лепшай лічыцца амерыканская інструкцыя для закладнікаў, якую склаў Алан Бел, прафесійны целаахоўнік каралёў і прэзідэнтаў, які ў цяперашні час кансультуе ўрад Канады па пытаннях бяспекі, перамоваў з тэрарыстамі і вызваленні закладнікаў. Яна дае парады псіхалагічнага характару людзям, якія могуць апынуцца ў крытычнай сітуацыі.

Першае, што раіць інструкцыя пры вымушаных зносінах закладніка з тэрарыстамі, захоўваць самавалоданне, не спрачацца з імі, але і не зневажацца, просячы аб літасці. *«Трэба спрабаваць змякчыць варожасць бандытаў у адносінах да сябе, шукаць, калі дазваляюць абставіны захопу, магчымасці ўсталявання індывідуальных кантактаў з некаторымі з іх. Гэта неабходна хоць бы для таго, каб пазбегнуць фізічных пакутаў ці палепшыць умовы ўтрымання»*. Алан Бел гаворыць, што пры зносінах з тэрарыстамі не трэба адводзіць вочы ўбок, але трэба пазбягаць прамога позірку ім у вочы, бо на падсвядомым узроўні такі позірк разглядаецца як выклік.

Пры працяглым знаходжанні ў зняволенні важна трымацца патрабаванняў асабістай гігіены, рабіць магчымыя фізічныя практыкаванні, скарыстоўваць тэхніку рэлаксацыі, а таксама паспрабаваць заняць чымсьці свой розум: чытаць, трэніраваць памяць, складаць верш, рашаць матэматычныя задачы.

Тэрарысты звычайна адымаюць гадзіннікі, мабільныя тэлефоны, ізалююць сваіх палонных ад знешняга свету. Таму варта адсочваць час сутак, весці каляндар, адзначаць змену дня і ночы.

Калі раптам здарыцца штурм, то *лепш за ўсё легчы на падлогу, тварам уніз, падалей ад вокнаў і дзвярэй. У ніякім выпадку нельга браць у рукі зброю, кінутую тэрарыстамі, бо інакш вас могуць застрэліць вашы «вызваліцелі»*.

Алан Бел раіць закладнікам не выказваць рызыкоўнага геройства, а клапаціцца ў першую чаргу аб захаванні ўласнага жыцця і здароўя.

*«Не спадзявайцеся на хуткае вызваленне,* – заклікае патэнцыяльных закладнікаў амерыканскі эксперт. – *Хуткая капітуляцыя тэрарыстаў малаверагодная. Некаторыя закладнікі ўтрымліваліся месяцамі»*.

Звычайна тэрарысты спрабуюць зламаць волю сваіх ахвяраў, дэмаралізаваць іх, зняважыць, ператварыць у бездухоўную рэч. Для гэтага скарыстоўваюцца розныя тактыкі – ад фізічных пакутаў (недахоп ежы, сну, дрэнныя ўмовы ўтрымання) да вытанчанай тэхнікі «прамывання мазгоў». У такіх умовах, гаворыць Алан Бел, галоўная задача – гэта захаваць самавалоданне, самакантроль і самапавагу. Аналіз болей за 200 выпадкаў захопу і вызвалення закладнікаў высветліў, што найбольш адэкватная стратэгія закладніка – гэта *«прыняццё і прыстасаванне»*. *«Неабходна змірыцца з тым, што вы знаходзіцеся пад уладай гэтых людзей. Яны заўсёды могуць вас забіць. Таму неабходна падпарадкавацца іх загадам, пазбягаць як агрэсіі, так і істэрык,* – сцвярджае Бел. – *Эмацыйна неўраўнаважаны закладнік, якога ахоплівае паніка, пужае тэрарыстаў сваёй непрадказальнасцю, і яго хутчэй за ўсё застрэляць першым»*. У закладніка павінен быць просты дэвіз: *«Не дапускаць ні баязлівасці, ні бравады»*. Усе паводзіны закладніка павінны быць падпарадкаваны галоўнай мэце: выжыць і захаваць сваё душэўнае і фізічнае здароўе. Для гэтага трэба пастарацца пераканаць тэрарыстаў забяспечыць сабе чалавечыя ўмовы існавання.

Амерыканскі эксперт раіць скарыстоўваць любую магчымасць для адпачынку. Стрэс, які адчуваюць закладнікі (тэрарысты, дарэчы, таксама), праз некаторы час прыводзіць да поўнай нервовай знядужанасці. Тэрарысты ведаюць пра гэта і звычайна загадзя запасаюцца псіхастымулятарамі.

*«Будзьце цярплівымі,* – заклікае Алан Бел. – *Час працуе на закладнікаў і на тых, хто рыхтуецца іх вызваліць. Не паддавайцеся на правакацыі тэрарыстаў, якія спрабуюць сеяць паніку і пераканаць закладнікаў у тым, што родныя і ўлады забыліся на іх, што на іх усім напляваць. Самае эфектыўнае дзеянне, якое вы можаце зрабіць для свайго вызвалення – гэта захаваць спакой»*.

Бальшыня былых закладнікаў даволі працяглы час перажывае посттраўматычны стрэс. Яго сімптомамі могуць быць бяссоніца, страта апетыту, апатыя, раптоўныя выбухі лютасці, цяжкасці ў зносінах з блізкімі. Іншым разам закладнікі перажываюць так званую «віну ацалелага». Чалавека перасьледуе думка аб тым, што ён нейкім чынам вінаваты ў смерці іншых закладнікаў.

Амерыканскі эксперт папярэджвае, што гэтыя рэакцыі натуральныя і што з часам чалавек пазбаўляецца ад іх. Выключэнні складаюць толькі скрадзеныя дзеля выкупу мільянеры – гаспадары буйных кампаніяў. Па назіраннях Алана Бела, целаахоўніка з 22-гадовым стажам, вопыт беспярэчнага падпарадкавання волі выкрадальнікаў асабліва балюча дзейнічае на тых, хто сам прывык аддаваць загады.

# Бяскрыўдная шыза

У доме-музеі Эрнеста Хемінгуэя ўсюды стаялі старыя стаптаныя чаравікі. Памятаю, мяне гэта моцна здзівіла – нашто, падумаў я, аднаму чалавеку такая колькасць абутку? Але экскурсавод патлумачыў: вялікі пісьменнік іх калекцыянаваў.

Можна зразумець людзей, якія збіраюць творы мастацтва, каштоўнасці, манеты, кнігі ці маркі... Усё гэта мае значэнне гістарычнае і, адпаведна, матэрыяльны кошт. У рэшце рэшт, збіраць можна нешта рэдкае і незвычайнае, што мае навуковую каштоўнасць. Аднак ахвота некаторых індывідаў да калекцыявання цалкам, здавалася б, нікому не патрэбнага барахла не паддаецца лагічнаму асэнсаванню. Нашто Ота Бісмарк збіраў градуснікі, а французскі прэзідэнт Эдуард Эрыа – рэстаранныя меню? Дзеля чаго Анатолю Франсу была патрэбная калекцыя настольных званочкаў, а Генры Форду – буйны збор бутэлек з-пад джыну? Француз Герар быў шчаслівым уладальнікам унікальнай калекцыі малаткоў, Армстронг збіраў калекцыю нататак самазабойцаў, Артур Конан-Дойл калекцыяваў рэкламныя буклеты транспартных кантор, параходных кампаніяў і страхавых агенцтваў... Але, зразумела, усіх заткнуў за пас Ротшыльд, у якога была вялізарная – 60 тысяч персонаў – калекцыя блох.



Наогул людзі збіраюць усё, на што хапае ўяўлення: абгорткі ад марожанага (гэты від калекцыявання называецца гелатафілія), пацалункі і адбіткі губ (губаграфія, яна ж губафілія). Быў вядомы калекцыянер-губограф пачатку XX стагоддзя, збор якога складалі 200 адбіткаў губ вядомых людзей Расіі. Для атрымання адбітку карысталіся васковай пласцінай, на якой губы чалавека пакідалі дакладны след. Блізка да губафіліі стаіць калекцыяванне валасоў. Самая каштоўная калекцыя такога роду належыць амерыканцу Джою Рэзінкофу, які можа пахваліцца завітком англійскага караля Карла I, набытым за 4 тысячы фунтаў, завітком з барады Генрыха IV Наварскага, атрыманым за 1.265 фунтаў, і некалькімі валаскамі Напалеона (коштам 345 фунтаў). Некаторых цягне збіраць вокавыя пратэзы, іншыя збіраюць начныя «вазы» ці шарыкі для пінг-понга.

Адкуль жа бярэцца гэты запал, гэтая жарсць, якую нехта назваў «ціхім вар'яцтвам у межах здаровага глузду». Можа, падобнае збіральніцтва – адхіленне ад нормы? Сапраўды, на думку некаторых псіхіятраў, схільнасць да калекцыявання з'яўляецца адной з прыкметаў шызафрэніі. Псіхолагі ж запэўніваюць, што калекцыяванне – гэта натуральнае жаданне чымсьці валодаць. Але і псіхіятры, і псіхолагі згодныя ў адным: запал да калекцыявання – родам з дзяцінства. З узростам жаданне штонебудзь збіраць у некаторых праходзіць, іншыя ж працягваюць самаахвярна складаць калекцыі самых розных рэчаў.

Нядаўна вучоныя выказалі меркаванне, што ў збіральнікаў-барахольшчыкаў, хутчэй за ўсё, праблемы з правым сярэднім перадлобавым участкам кары галаўнога мозгу. Даследаванне групы паталагічных «калекцыянераў» засведчыла, што пашкоджанне франтальнай долі мозгу выклікае парушэнне эмацыйнай раўнавагі і здольнасці да разумных суджэнняў. Калі пашкоджанне распаўсюдзіцца на правы сярэдні перадлобавы ўчастак кары галаўнога мозгу, гэта выклікае ў пацыента ахвоту да калекцыявання. Папярэднія даследаванні на грызунах высветлілі, што болей прымітыўныя падкоркавыя часткі мозгу выклікаюць страсць прыхоўваць бескарысныя рэчы і ежу. Жывёлы працягваюць збіральніцтва незалежна ад колькасці назапашанага. Толькі правы сярэдні перадлобавы ўчастак кары галаўнога мозгу ў чалавека можа кантраляваць гэтую страсць і адрозніваць каштоўныя і бескарысныя аб'екты збіральніцтва. А калі ён пашкоджаны, чалавекам авалодвае інстынкт маніякальнага назапашвання бескарыснага барахла.

**Вадзім САМАКАТАЎ**

Utro.ru

## Пункт гледзішча

**Курт ВАНЕГУТ**

# *Спадарыня бібліятэкарка, я люблю вас!*



Як, відаць, і бальшыня з вас, я паглядзеў «11 верасня па Фарэнгейту» Майкла Мура. Назва фільма парадзіруе назву вялікага навукова-фантастычнага рамана Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейту». 451 градус па Фарэнгейту – гэта тэмпература ўзгарання паперы, на якой друкуюцца кнігі. Герой рамана Брэдберы – муніцыпальны службовец, чыя праца – паліць кнігі.

Дарэчы, да пытання аб спаленні кніг: хачу павіншаваць бібліятэкараў. Яны ніколі не славіліся фізічнай сілай, моцнымі палітычнымі сувязямі ці багаццем, але па ўсёй краіне цвёрда супраціўляюцца спробам грамілаў-антыдэмакратаў забраць некаторыя кнігі з бібліятэчных палічак і адмаўляюцца выдаць «паліцыі думак» імёны людзей, якія бралі гэтыя кнігі чытаць.

Так што Амерыка, якую я любіў, усё яшчэ існуе – няхай і не ў Белым доме, Вярхоўным судзе, Сенаце, Палаце прадстаўнікоў ці СМІ. Граніцай Амерыкі, якую я люблю, сталі стойкі для выдачы кніг у нашых публічных бібліятэках.

І яшчэ аб кнігах: нашыя крыніцы бягучых навінаў, газеты і тэлебачанне, сёння настолькі баязлівыя, настолькі неінфарматыўныя, настолькі страцілі пільнасць у абароне інтарэсаў амерыканскага народа, што толькі ў кнігах мы можам знайсці адказ на пытанне што адбываецца на самой справе. Прывяду адзін прыклад: кнігу «Дынастыя Бушаў, саудаўская дынастыя» Крэйга Ангера, апублікаваную напачатку гэтага абразлівага, ганебнага, крывавага года.

Калі вы яшчэ гэтага не прыкмецілі, у выніку бессаромна фальсіфікаваных выбараў у Фларыдзе, дзе тысячам афраамерыканцаў было з-за свавольства ўладаў адмоўлена ў праве голасу, мы сёння паўстаем перад усім светам у выглядзе ганарлівых, напышлівых, бязлітасных ваякаў, якія беспакарана бразгаюць зброяй жахлівай сілы.

Калі вы яшчэ гэтага не прыкмецілі, сёння ва ўсім свеце нас ненавідзяць і баяцца не нашмат меней, чым у свой час нацыстаў.

І для гэтага ёсць усе падставы.

Калі вы яшчэ гэтага не прыкмецілі, нашы неабраныя лідэры лічаць недачалавекамі мільёны людзей з-за адной іх рэлігійнай і расавай прыналежнасці. Іх можна забіваць і калечыць, катаваць, кідаць у турмы – рабіць з імі ўсё, што пажадаем? Лёгка!

Калі вы яшчэ гэтага не прыкмецілі, мы лічым недачалавекамі нашых уласных салдат – не з-за іх расы і рэлігіі, а з-за прыналежнасці да ніжэйшых класаў. Пасылаць іх куды заўгодна, прымусіць рабіць што заўгодна? Лёгка!

Такім чынам, ад радзімы ў мяне засталіся толькі бібліятэкары ды чыкагскі часопіс «In These Times», які вы цяпер чытаеце.

Перад тым, як мы напалі на Ірак, велічная «New York Times» гарантавала, што там ёсць зброя масавага паражэння.

Напрыканцы жыцця Альберт Эйнштэйн і Марк Твэн расчараваліся ў чалавецтве, хоць Твэн не ўбачыў нават Першую сусветную вайну.

Сёння вайна ператварылася ў разнавіднасць тэлевізійнага відовішча. А Першую сусветную вайну асабліва «відовішчнай» зрабілі два амерыканскія вынаходніцтвы – калючы дрот і кулямёты. Дарэчы, шрапнель вынайшаў англічанін – яна і названа ягоным імем. А вы не хочаце, каб вашым імем што-небудзь назвалі?

Падобна маім – несумненна, болей выдатным – папярэднікам, Эйнштэйну і Твэну, мяне так і цягне махнуць на чалавецтва рукой. Апроч таго, як некаторыя з вас, магчыма, ведаюць, я не першы раз саступаю ў барацьбе з бязлітаснай ваеннай машынай.

Мае апошнія словы? «Жыццё – занадта жорсткі спосаб абыходжання з жывёламі, нават з мышамі».

Напалм вынайшлі ў Гарвардзе. Гэта праўда!.

Наш прэзідэнт – хрысціянін? Дык ім быў і Адольф Гітлер.

Што мы можам сказаць нашай моладзі цяпер, калі ўсімі грашыма ў засеках нашай дзяржавы і карпарацыяў авалодалі псіхапатычныя асобы – гэта значыць людзі, пазбаўленыя сумлення, пачуцця літасці і сораму – і прысвоілі сабе.

*«In These Times»*

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія № 02330/0056677 ад 29.03.2004 г.
220108, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 667
Падпісана да друку 21.09.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.